*Цяжка было жыць* → 3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


*Абразкі з „ваколіцы”* → 9




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 30 (2932) Год LVII | Беласток, 22 ліпеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



■ Уршуля ШУБЗДА
фота Аляксея Трубкіна
www.racyja.com


# „Басовішча” захапляе маладых!

**У пятніцу, 14 ліпеня, у васемнаццаць гадзін — афіцыйнае адкрыццё фестывалю. Вядучая Ілона Карпюк, згодна традыцыі, паклікала ўсіх сяброў БАСу на сцэну, згадваючы: „Дзякуючы ім маем магчымасць сёлета сустрэцца ўжо дваццаць трэці раз”. У гэтым годзе словы падзякі атрымала таксама таварыства ПКС (Pogotowie Kulturalno-Społeczne), якое дапамагло БАСу атрымаць фінансавую падтрымку з боку Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.**



— Я не лічу, што „Басовішча” ў гэтым годзе адбылося дзякуючы нам, — кажа Роберт з таварыства ПКС. — Адбылося яно, як штогод, дзякуючы Беларускаму аб'яднанню студэнтаў. Я асабліва цешуся, што была ў мяне магчымасць дапамагчы. Я таксама некалькі разоў быў на „Басах” і ведаю, што значыць гэты фестываль для людзей, якія сюды прыязджаюць.





З Робертам удалося мне пагаварыць у час, калі папсавалася асвятленне. Ён бег з кабелем у руцэ.

— Спынішся на хвіліну, каб паслухаць музыкі? — пытаю.

— Напэўна. Я асабліва чакаю выступу „Зніча”. Нішто мне не перашкодзіць, каб паглядзець яго выступ, — засмяяўся і пабег далей.

У пятніцу выступілі падляшскія калектывы „RIMA”, «Ilo&Friends” і „Dead Courier” (апошні з'яўляецца пераможцам конкурсу „Біфор Басовішча”), гурты з Беларусі „Сцяна”, „TerraKod”, „B:N” і „RaggaFaya” з Польшчы. У цесным цэнтры „Барыка” стаіць сцэна, агароджаная з усіх бакоў турнікетамі. Пры ўваходзе ахоўнікі дакладна праглядаюць кожнага, хто хоча ўвайсці.

— Мне гэта не падабаецца, — скардзіцца Пятро Дудуновіч, які на „Басовішча” прыязджае ад дзесяці гадоў. — Чуў, што нават забаранялі ўносіць бел-чырвона-белыя сцягі.

— Забаранялі? На „Басах”? — дапытваюся.

— Ну, ведаеш, здаецца што ішло пра гэтыя палкі, на якіх вешалі сцягі. Трэба было зняць, каб увайсці. Але я ўпэўнены ў тым, што на пачатку са сцягам не пускалі, — кажа раззлаваны Пятро, перабіраючы чорнымі ад балота нагамі, па якім яшчэ перад хвілінаю басанож бестурботна бегаў па „Барыку”. — Раней была большая свабода. Я мог легчы на лаўцы перад сцэнай і спаць аж да раніцы і ніхто не звярнуў бы на мяне ўвагі.

Справу сцягоў тлумачыць Кацярына Максімец з Беларускага аб'яднання студэнтаў:

— Ахоўнікі не хацелі ўпускаць са сцягамі толькі таму, што ўжо раней здаралася, што на скручаным сцягу, якога яны не праверылі, была намалявана, напрыклад, свастыка. Натуральна, што пускалі з бел-чырвона-белымі сцягамі, — спакойна расказвае Кацярына, блукаючы вачыма па ўдзельніках, якіх штораз больш наплывала ў „Барык”. — Не можам чапляцца ахоўнікаў за тое, што не пускалі асоб, якія трымалі сцягі на палках. Яны мусяць выконваць свае абавязкі.

Абавязкі ахоўнікаў, здаецца, вельмі добра разумеў Кастусь з Мінска. Стаяў ён са звешанымі на турнікеце рукамі.

— Не ідзеш перад сцэну? — пытаюся.

— Пакуль што не, чакаю сяброў. Акрамя гэтага не ўпусцяць мяне.

— Чаму? — дапытваюся. — Не маеш жа ні піва, ні сцяга на небяспечнай палцы.

— Але маю ў кішэні нож. Ну, кроілі мяса на шашлыкі. Мы сама прыехалі, — кажа Кастусь.

Хлопец вучыўся ва ўніверсітэце ў Мінску на графіка. Згэтуль выкінулі яго пасля таго, як дапамог апазіцыйнаму кандыдату на прэзідэнцкіх выбарах.

— У нас больш палахлівыя людзі, — працягвае расказ Кастусь, — таму люблю прыязджаць сюды. Усё ж такі адчуваецца тут прастору, большую свабоду.

Кастусь ужо чарговы раз прыехаў на „Басы”. У час гутаркі не забыўся дадаць, што раней было больш людзей.

— Цяжка выбрацца з Беларусі сюды, да вас, — дадае. — Шэсць гадзін мы чакалі на мяжы. Гэта пэўна найбольш адбівае беларусам ахвоту прыехаць сюды.

У той час „Барык” пачынае запаўняцца фанатамі беларускай музыкі. Між імі апынулася каманда сяброў з Саколкі.

— Я на „Басах” другі раз, — кажа Мішка з цёмнай татуіроўкай на руцэ. — Амаль усе мы прыехалі другі раз, толькі Войцех упершыню даведаўся што такое „Басы”, — засмяяўся Мішка, паказваючы на хлопца ў зялёным капелюшы. — Я нават яго не пытаў ці хоча ехаць, проста заехаў і забраў з хаты.

— Разумееце тэксты песень? — пытаюся.

— Можа не ўсё, але большасць. Мая бабуля ў Старой Камёнцы жыве, Аня родам з Новай Камёнкі, дзед Марка з Бярозава, што пад Дубровай. Так што крыху ведаем беларускую мову.

— Я, напрыклад, — дадае Аня, — прыязджаю сюды галоўным чынам для людзей. Нідзе не сустрэнеш так цікавых асоб як на „Басах”. Таму і я тут.

Івона мае менш шчасця, хаця пераконвае, што работа не перашкаджае ў гэтым, каб пазнаёміцца з кім-небудзь. Івона — барменка, якая працуе на „Басах” ад шасці гадоў. Цэлыя ночы, калі іншыя гуляюць пры музыцы, яна стаіць за срэбным столікам з лозунгам: „0,5 літра — 4,5 зл.”.

— Я ўжо прывыкла, што працую ў час „Басаў”, — расказвае з усмешкай на твары. — Калі маю крыху свабоднага часу, з прыемнасцю слухаю песень вядомых мне гуртоў. Толькі бачу, што з году ў год штораз менш людзей. Раней чарга да майго століка не мела канца, а цяпер? Сама паглядзі!

Трэба сказаць, што каля шостай гадзіны ў пятніцу ўдзельнікаў фестывалю было столькі ж, што і арганізатараў, якія ўвесь час хадзілі туды і сюды са спакойнымі тварамі, нібыта ведалі, што гэта зацішша можа не перад бурай, але цёплым, густым дажджом — у прамым і пераносным сэнсе.

У суботу канцэрт пачалі пераможцы фэсту „Адборышча”, які прайшоў 24 чэрвеня ў Беларусі. Адабраныя гурты „PANaNieba” і „Пава” гэта зусім два іншыя напрамкі ў музычным стылі. „PANaNieba” — энергічныя хлопцы, якія спяваюць рэп. Вопратка дзяўчат родам з сярэднявечча і інструменты тыпу дуда, флейта гэта толькі палова сапраўднага аблічча гурту „Пава”. Хто не чуў раней твораў гурту, напэўна быў здзіўлены спосабам спалучэння традыцыйнай музыкі з электронным гучаннем. Пасля выступілі яшчэ гурты больш вядомыя басаўскай публіцы — „IQ 48”, „Калмары”, „Farben Lehre”, „Зніч”, „Нейра Дзюбель”. Гэты апошні рыхтаваўся да выступу каля пятнаццатай гадзіны. Вакаліст Юра адрозніваўся ад сяброў свайго гурту шматкаляровай кашуляй, якая прыцягвала ўвагу.

— Магу сказаць, што ўдзельнічаю ў „Басах” ад пачатку. Напэўна раней было больш людзей, выступалі цікавейшыя гурты..., — Юра на хвіліну спыніўся, перастаў скардзіцца і дадаў: — А можа я ўжо пастарэў?

9770546196000



# Адказнасць

Неяк зайшоў я да аднаго знаёмага. Той акурат правяраў надпісы на купленых за мяжой пачках цукерак.

— Збіраюся ў госці, — растлумачыў ён. — Вось правяраю, каб тэрмін вартасці быў добры. А адна пачка выклікае сумневы. Здаецца, тут зацёрлі сапраўдны надпіс і паверсе напісалі іншы.

— Ты лічыш, што ў нямецкім гіпермаркеце ёсць адмысловыя штаты супрацоўнікаў, якія заціраюць надпісы на сапсаваных прадуктах і пішуць новыя? — засмяяўся я. — І хто ж гэта пагадзіцца на такую працу? Будзе рызыкаваць, парушаць і заканадаўства, і нормы маралі, і дзеля чаго? Каб падмануць некага? А яму якая з гэтага карысць?

— Мне расказваў адзін наш прадавец, што ў нас так робяць, — шчыра здзівіўся знаёмы. — Так начальнік ім гаворыць. І ніякай карысці з гэтага яны не маюць, але робяць. Дык чаму там, у Германіі, так рабіць не будуць?!

Сапраўды цікавае пытанне: чаму? І, здавалася б, адказ на яго надзвычай просты і зразумелы без слоў. Ды вось я захацеў яго знайсці, той адказ, ды растлумачыць словамі, то слоў не знайшлося.

Хіба гэта самае горшае, што адбылося ў Беларусі за апошняе дзесяцігоддзе. Чалавек нават думаць ужо так не ўмее, што не толькі ў нас, але хоць дзенебудзь нешта можа быць не сфальшаваным. І да гэтага ўжо прызвычаіліся і прынялі як норму жыцця. І супакоілі сябе тым, што так усюды. Чалавек не можа паверыць, што людзі могуць трымацца свайго слова і маюць адказнасць. І, здаецца, ездзяць нашы людзі па свеце, і ўсё бачаць сваімі вачыма, але не вераць вачам сваім.

— А ты думаеш, у Амерыцы выбары не падрабляюць?! — эмацыйна пытае ў мяне іншы знаёмы. І з упэўненасцю, якая не выклікае аніякіх сумневаў, сам адказвае: — Выбары падрабляюць усюды!

Вось і ўсё! Кажуць, так усюды жывуць людзі. І нічога не зменіш. Таму і старацца штосьці памяняць няма аніякага сэнсу.

Можна выказаць здагадку, што за такімі сцвярджэннямі чалавек хавае сваю баязлівасць. Можна ўсё зваліць на таго чалавека і назваць яго „саўком". Хоць зусім нядаўна, на пачатку дзевяностых, гэтыя ж людзі верылі ў нешта іншае і шукалі справядлівасці. Дык што ж змянілася? Дзе дзелася адказнасць чалавека за свае рашэнні, за свае дзеянні, за самога сябе?

— А ў каго яна сёння ёсць, тая адказнасць, — усміхнуўся яшчэ адзін знаёмы, калі выслухаў гэтыя развагі. І дадаў з болем і роспачу ў голасе: — Можа шмат ты ў нас ведаеш публічна вядомых людзей, якія свайго слова трымаюцца?

Вось так. Што можна хацець ад звычайнага чалавека, калі яму цяжка знайсці прыклад нават сярод эліты. І не абавязкова ўладнай эліты. Хоць бы і апазіцыйнай. Абы было каму паверыць. Ды вось нікому не верыць ён. І мае на тое ўсе падставы.

Здавалася б, кожны рэспубліканскі лідар апазіцыйных структур мусіў публічна адказаць на артыкул Насты Палажанкі „Нож у спіну". Бо Наста мае права задаваць тыя пытанні, якія ў ім паставіла. Гэта ні ў каго не выклікае сумневу. І мае права даваць парады і палітыкам, і журналістам. Але не кожны можа адказаць на тыя пытанні, бо не кожны ў прынцыпе мае тое разуменне адказнасці.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў практычна ўсе апазіцыйныя лідары заявілі, што пры наяўнасці хоць аднаго палітвязня яны ў выбары больш не гуляюць. І ні ў што не гуляюць. Бо галоўнае — гэта адсутнасць у краіне палітвязняў. І з-за такой маналітнай цвёрдасці апазіцыі ўлада нібыта абавязкова пойдзе на саступкі. Ды, як казаў герой адной вядомай кінастужкі, гучныя словы скалыхнуць паветра, але не суразмоўцу. Не скалыхнулі гэтыя словы і ўладу, бо добра яна ведала кошт гэтых цвёрдых заяў. І сёння ў цэлага шэрагу апазіцыйных лідараў знайшлася тысяча агаворак і тлумачэнняў, чаму свайго слова трымацца не варта. І сярод гэтых агаворак няма толькі аднаго тлумачэння — ці адчувае чалавек, які адносіць сябе да палітычнай эліты нашай краіны, хоць нейкую адказнасць, што з-за яго слізняцкай пазіцыі, з-за яго нетрымання слова, тых людзей, якіх ён сам жа адносіць да катэгорыі палітвязняў, не становіцца менш.

Віктар САЗОНАЎ



# Запрашэнне ў сметніцу

Даўней з сумотай чакаў я лета. Асацыявалася яно мне з радасным жнівом, пладаноснымі садамі, сонцам, сяброўскімі сустрэчамі і адпачынкам. Сёння думаю аб гэтай пары года з бояззю. Лета гэта віхуры, ураганы, смяротныя буры. Гэта боязь, гэта страх. А на страхоўку маёй хаціны мне не стае. Значыць, стане настолькі, наколькі адыму сабе ад рота. Раней чакаў я штомесячнай зарплаты з радаснай нецярплівасцю. Планаваў выдаткі, адкладваў нейкі грошык на чорную гадзіну. Сёння ледзь зводжу канцы з канцамі і маіх журналісцкіх ганарараў ледзь хапае на пагашэнне бягучых рахункаў. І таксама на марную ежу. Аб гасцях, якія маглі б мяне наведаць у маёй гожай вёсцы, распаложанай паміж Пушчай і рэчкай Нарвай, думаю... хутчэй з боязззю. Бо ж няма мне сапраўды чым іх пачаставаць, а калі нават іх угашчу, дык адымаючы самому сабе. Прыгадаю толькі скакаўшы ў час іхняй пабыўкі рахунак на электраток! Таму не тужу па іх у той момант, калі ўрэшце з'язджаюць. Пасля іхняга выезду ем што-небудзь. Ды няхай хтосьці спрабуе жэрці найтаннейшую саланіну з хлебам — штодзённа. Дзень у дзень, аж да наступнай зарплаты. Прызнаюся, час ад часу карыстаюся ветлівасцю ўласнікаў прыватных крамак. На гэтак званы «сшытак» — а як жа ж — бяру тое, што неабходнае для жыцця. Бяру, бо міласэрна даюць. А плачу тады, калі атрымаю зарплату. Пасля ўрэгулявання даўгоў гонару, пасля тыдня-двух, зноў я прымушаны папрасіць занесці мяне ў «сшытак». Ды чую, што гэта скарбовае парушэнне. Чую, што ўласнік крамы злоўлены на самаранскім імпульсе шкадобы можа быць пакараны да 30 тысяч злотых. Закон ёсць закон. А жыццё — жыццё. Закон, які адстае аж жыцця, становіцца чалавечым беззаконнем. Столькі тут майго каментарыя ў гэтым плане.

Чалавек, які сёння не купляе — няхай будзе што новага тэлевізара, гаршка, тэлефона, моднага адзення, якога-небудзь гаджэта — ён непатрэбны. Непатрэбны ён банкам, карпарацыям, сетцы крамаў. Непатрэбны ён Дзяржаве, якой канстытуцыйным абавязкам з'яўляецца клопат пра ўсіх сваіх грамадзян. Наш камерцыялізаваны, бяздумна спажывецкі свет выкідвае такога жабрака, дармаеда, недарэку, лайзу, лахудру, абадранца на абочыну. У сметніцу. Жыццё на сметніцы, аднак, зусім не сумнае. Час ад часу бывае яно вясёлым. На жаль, у ім штораз большая таўкатня. Паводле навейшых статыстычных інфармацый, лік людзей жывучых за рысай законнага мінімуму экзістэнцыі — большы ад ліку маючых правa на сацыяльную дапамогу. Прыгадаем, што мінімум экзістэнцыі ў Польшчы гэта ўзровень выдаткаў хапаючых, каб выжыць, значыць, 495 злотых на адзінокую асобу і 1 336 злотых на сям'ю з чатырох чалавек. Аднак гэта Падляшша — найбольшая сметніца. Людзей, якім не стае на штодзённыя пакупкі, значна больш, чым налічвае сярэднестатыстычная ў Польшчы. Такіх як я, непакупнікоў, двойчы больш, чым пакупнікоў. Ды і тыя купляюць штораз менш.

Гаворка мысляра адцінаецца ад мовы эмоцый. Ды ці мудрасцю з'яўляецца той, хто абапіраецца выключна на розум? Розум без эмоцый — скалечаны. Скалечанымі з'яўляюцца эмоцыі, што адварочваюцца ад розуму. І адно, і другое, адно без аднаго — дурное. Таму не асуджвайма нічога і нікога адным розумам. Не вырашайма чаго-небудзь пад уплывам толькі эмоцый. Сметніца, на якой жыве большасць польскіх грамадзян, не з'яўляецца польскім дзяржаўным інтарэсам. Быццам бы не ёсць, ды штораз больш становіцца. Таму трэба сабе дазволіць, каб эмоцыі ўзялі верх над розумам. Бо бывае так, што тое другое засланяе тое, што ўжо даўно адсланілася першым. Толькі трэба даць яму закрычаць.

Таму крычу! Ды хто мяне пачуе, калі адусюль чуваць шолах разграбанага смецця, а смурод загніваючай ежы, якую выкідваюць «купляючыя» сугрgalмадзяне — нашыя суседзі, сваякі, знаёмыя, згусцеў ужо да такога ўзроўню, што салідны, бетонны мур. Раздзяляючая калісь усходні і заходні Берлін сцяна пры ім — звычайны плоцік.

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Візавыя змены?



— Тут, дзе мы знаходзімся, зусім не канчаецца Еўрасаюз. Тут, у гэтым рэгіёне, ЕС пачынаецца, — запэўніваў у час прэс-канферэнцыі на Радыё Рацыя Георг Шырмбек, старшыня польска-нямецкай парламенцкай групы Бундэстага, а заадно член Еўрапейскай парламенцкай групы партыі ЦДУ і член фінансавай камісіі ў нямецкім парламенце.

Дэлегацыя польска-нямецкай парламенцкай групы Бундэстага з чатырох асоб ды дэпутат Марэк Кшанкала з такой самай групы польскага сейма пабывала ў Беластоку па запрашэнні падляшскага дэпутата Роберта Тышкевіча, віцэ-старшыні сеймавай камісіі замежных спраў. Нямецкія дэпутаты сустрэліся з прэзідэнтам горада Беластока і ўладамі Рэгіянальнай дырэкцыі дзяржаўных лясоў. У час прэс-канферэнцыі на Рацыі старшыня Шырмбек хваліў умеласць выкарыстання на Падляшшы еўрасаюзных сродкаў. Тут, аднак, звярнуў увагу:

— Калі кіруемся да таго добрага ЕС, дык сёння не хопіць адно стварыць добрыя ўмовы гаспадарання. Цяпер, калі працягваюцца дыскусіі на тэму супольнай валюты, аказваецца, што адгукваюцца старыя прадузятасці, якія часта вынікаюць з таго, што мы не ведаем адзін аднаго, не ведаем нашай гісторыі, часта не разумеем менталітэту партнёраў. Таму вельмі важныя такія падарожжы як нашае, каб мы змаглі пасля з дысідэнтамі, з нашымі грамадзянамі шляхам СМІ пашырыць гэтыя веды.

Пераходзячы да дэталяў, старшыня нямецкай групы заявіў:

— Вернемся дадому і ў чарговы раз паставім пытанне, ці візавы рэжым, які дагэтуль абавязвае ў адносінах да Беларусі, але і да Украіны ды Расіі, сапраўды павінен надалей абавязваць. Магчыма, надыходзіць момант, што трэба было б над гэтым задумацца. Нашай задачай, як членаў ЕС, з'яўляецца пашырэнне такіх каштоўнасцей як мір, свабода, сацыяльная бяспека. У распаўсюджванні такіх каштоўнасцей зваканімітым вырашэннем з'яўляюцца такія ўстановы як Радыё Рацыя. Таму будзем таксама ставіць пытанне, ці падтрымаваем такія ўстановы і на такім узроўні, якога яны ў гэты момант заслугоўваюць.

Дэпутат Тышкевіч:

— Я рады, што мы згодныя з тым, што тут пачынаецца ЕС. Гэта спалучаецца з двума вялікімі выклікамі: каб мы ўмелі пашыраць еўрапейскія каштоўнасці на ўсход ад нашых межаў ды каб паспяхова рэалізуючы палітыку нашага рэгіёна мы былі візітнай карткай магчымасцей эканамічна-грамадскага развіцця Еўрасаюза.

„Ніва" ў час канферэнцыі м.інш. папрасіла ў старшыні Шырмбека даць каментарый на запрашэнне АБСЕ старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі ў Беларусі Лідзіі Ярмошынай на канферэнцыю ў Аўстрыю (яна дагэтуль была ахоплена забаронай уезду на тэрыторыю ЕС):

— Гэта для спадарыні Ярмошынай не будзе паездка ў адпачынак. Тое, што будзе вымушана яна выслухаць, напэўна не будзе ёй даспадобы. Прашу прыкмеціць адрозненне паміж візітам такога тыпу і выдачай ёй візы, а выездам Лукашэнкі на лыжы ў Давас. Прызнаюся, што калі гаворка пра візавую палітыку, ёсць шмат супярэчнасцей у адносінах да Беларусі. Даходзіць нават да таго, што ў першых спісках асоб неўязных у ЕС апынуліся ўжо памерлыя асобы. Гэта задача для нашых служб, разведкі, каб ведаць, хто чым у Беларусі займаецца. Сапраўды, у ЕС у цяперашні час дыскусія галоўным чынам засяроджваецца на крызісе і зоне еўра. Справы звязаныя з тым, што адбываецца ў Беларусі, апынуліся ў цяні. На канферэнцыях аб гарантыі сродкаў для Беларусі гаварылася шмат, ды мала што з гэтага вынікала. У час бюджэтнай дыскусіі восенню я схачу нейкім чынам паўплываць на гэтую сітуацыю. Інакш не павінны мы даваць такіх абяцанняў.

Спасылаючыся на ролю, якую можа выконваць Падляшша ў якасці памоста паміж Беларуссю і ЕС, Георг Шырмбек заявіў:

— Калі вядзем гаворку пра энергетычную палітыку, аб якой шмат гаворым у Нямеччыне, ёсць шмат здагадак, канцэпцый, якія можна было б тут рэалізаваць.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ



■ Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

Успамін Яўгеніі Пасечнік з роду Амельяновіч з Орлі, народжанай у 1932 годзе.

# Цяжка было жыць

## Свае жыды

Добра помню арлянскіх жыдоў. Адвячорак у пятніцу — бяжыць жыд па рынку і стукоча ў патэльню на пачатак свята. Жыдоўкі хацелі, каб ім у печах распальваць. Жыды ішлі групкамі, на шпацыр. Бывала, што збярэцца наша дзетвара і дражніцца з імі, абсыпалі пяском, вельмі жыдоў не любілі.

Жыды не замыкаліся перад хрысціянамі, упускалі нават у сваю сінагогу, на малітву. Але трэба было быць спакойна і сядзець на лаўках. Жыдоўскія мужчыны маліліся ў галоўнай зале на першым этажы, а жанчыны зверху, на вялікай верандзе (таксама ў бабінцах). Часам нашы гарэзлівыя хлопцы зваднічалі — бывала, выпускалі ў тую залу голуба або варону. Узнімаўся тады вялікі вэрхал. (Падстрэшак сінагогі выкарыстоўваў да вайны ў якасці начлежнага памяшкання, а пасля вайны, да часу рамонту, быў адным вялікім галубятнікам — М. М.) У бабінцы — дабудоўцы да сінагогі — жыў жыд Патлер, які быў быццам старажам. Быў ён крыху недаразвіты і часам дзеці дражніліся з ім, а ён тады іх ганяў. Бывала, калі каго злавіў, тады даваў такому жуліку байкаватую лупцоўку. І яшчэ скарга да бацькоў ішла, якія ад сябе таксама дабаўлялі такому веселуну за дражнілкі з Патлера.

Жыды добра вучыліся. Давалі нашым дзецям спісваць задачы, а часам нават прыходзілі дадому дапамагчы ў вучобе. Узамен спадзяваліся, што нашы не будуць да іх чапляцца ў школе. Але і так хлопцы не давалі ім спакою. Жыдоўскія дзяўчыны нават булкі ў школу прыносілі дзеля подкупу каб спакойна вучыцца.

У жыдоў арляне шылі вопратку. Мы хадзілі да жыдоўкі Рохлі, якая жыла пры вуліцы, што выходзіла на Кашалі. Іншая краўчыха жыла там, дзе цяпер жыве Ольга Федаровіч (цяпер вуліца 1 Мая). У яе цэлы час было адкрыта акно, цераз якое мы заўсёды заглядалі, калі варталіся са школы; пасля яна прыходзіла да мамы скардзіцца.

Арлянскія жыды святкавалі свае святы, але не працавалі таксама ў праваслаўныя святы і каталіцкія. Мабыць таму, што былі яны сваімі жыдамі.

## Маё дзяцінства

Маё дзяцінства было сумнае, бо мама захварэла і тата Мяфодзій увесь час падаваўся да дактароў. Тады я, сама дзіцё, мусіла даглядаць дзяцей. У Гаўзюка даглядала блізнюкоў, у Грышы Шыманскага даглядала траіх хлапчукоў, Сашу і Валодзю, а найстарэйшы Ваня быў вельмі спакойны і ўвесь час хворы. Мама, калі ёй было крыху лягчэй, гаварыла: «Занясі Вані *канапку*», патайком ад бацькі ўрэжа каўбасы. Бо Гандзя Шыманская была мамінай дваюраднай сястрой. Я занясу тую *канапку*, Ваня схавае, а тыя двух забяруць ад яго і з'ядуць. Вельмі кепска жылося.

У школу я пайшла пры саветах, а пасля пры немцах, але ўжо мама хварэла, цэлы час ляжала, то я мала і хадзіла ў школу.

Савецкія афіцэры жылі ў Орлі, між іншым, у Пятра і Аляксандра Русіновічаў. Калі я хадзіла да дзядзькі, то саветы давалі мне цукар у кавалках і мыла.

Калі саветы адступалі і наступалі немцы, тады бацька адвёз мяне да сваякоў у Тафілаўцы. Аднак я кожны другі дзень прыходзіла пяшком у Орлю. Па дарозе, у лесе каля Рудутаў, натыкалася на пабітых савецкіх салдат, былі яны страшэнна пакалечаныя, з вантробамі наверсе.

У той час у нашай сям'і здарылася вялікая бяда — загінуў трагічна мой адзіны брат Сярожа. А сталася гэта так. Пры немцах адзін шафёр, савецкі палонны, вазіў самаходам збожжа са складу, які быў у пазнейшым будынку асяродка культуры па вуліцы Бельскай. Дзеці, як гэта дзеці, чапляліся самахода і так хвіліну ехалі і саскоквалі. Мой брат зачапіўся за штосьць пятліцай ад паліто і не мог саскочыць. Пакуль пятліца абарвалася, на павароце трапіў ён пад кола. Згінуў на месцы, меў дзевяць годзікаў.

У час вайны намнога горшымі ад немцаў былі некаторыя нашы мясцовыя сволачы. Я да сёння помню, як мяне, малое дзіця, моцна пабіў адзін з мясцовых шуцманаў. Здарылася гэта на тэрыторыі гета, ужо пасля таго, як вывезлі адтуль мясцовых жыдоў. Некаторыя людзі бегалі ў гета і разбіралі тое, што там яшчэ асталося. І я таксама пацікавілася, што там. Пабачыла на зямлі парваныя і раскіданыя каралікі; назбірала іх цэлую кішэню. Акурат заўважыў гэта той шуцман. Я прасіла яго, каб дазволіў мне забраць тыя каралікі, але той узяў і ўсё з маёй кішэні высыпаў, а пасля яшчэ тры разы пацягнуў мяне гумай. То я аж скручвалася ад болю. Заўважыў гэта іншы шуцман, Пятруша Кубаеўскі (далёкі наш сваяк) і заступіўся за мяне. І да яго: «Што ты робіш!? Апамятайся! За каралікі дзіця б'еш?!»

(Шмат гадоў пасля вайны Кубаеўскі пасяліўся ў Орлі. Аднойчы сам пачаў са мною размову пра свае цёмныя акуляры, якія ён пастаянна насіў. Аказалася, што мусіў іх насіць, бо ад пастаяннага глядзення на снег пашкодзіў зрок: трынаццаць гадоў правёў ён у лагеры ў Сібіры — М. М.)

Цяжка было ў той ваенны час. Але здараліся сітуацыі, якія можна назваць цудамі. Напрыклад, аднойчы ноччу, калі мы спалі, упаў снарад пасярэдзіне нашага панадворка. Затросся цэлы дом, а са сцяны ўпала на падлогу ікона. Аднак, хаця яна была за шклом, не пабілася.

Яшчэ перад надыходам фронту мая мама пачала выпякаць булкі. Гаварыла: «Будуць ісці бедныя салдаты, то трэба будзе ім даць хлеба, малака»; мелі мы дзве каровы. І праўда, як ішлі саветы, за другім разам, то страх было глядзець на іх. Мама пякла тады хлеб і не паспела яго выняць з печы, бо яшчэ не быў гатовы. Але салдаты сталі крычаць: «Мамаша, давай, бо мы галодныя, кушаць хочацца, нічаво...». Мама дала ім таксама сухароў на дарогу. Раненым салдатам, якія асталіся ў Орлі, я пазней насіла малако ў вядры; узамен давалі мне яны цукар.



Пасляваеннае прадшколле ў Орлі. Здымак зроблены ў лесе Пятра Кубаеўскага. На здымку, м.інш. выхавацелька Таня, кухарка Галена Амельяновіч, памочніца кухаркі Яўгенія Амельяновіч і дзеці 1941 года нараджэння і старэйшыя — м.інш. Аляксандр Стэльмашук (усярэдзіне, у касцюмчыку), Мікалай Нестаровіч, Ала Мартыновіч.

## Пасля вайны

Пасля вайны таксама было цяжка, не было чаго есці. Мне было тады трынаццаць гадоў, працавала. Цётка Галенка Амельяновіч была кухаркай у прадшколлі, у якім было вельмі многа дзяцей. Гаварыла мне: „Прыйдзі да мяне, то дам табе есці". То я дапамагала ёй прыбіраць, змываць пасуду. Узамен за тое давала яшчэ ежу маме.

(У гэтым месцы трэба адзначыць, што спадарыня Галена Амельяновіч мела вельмі багатую біяграфію; пра яе расказаў мне ейны пляменнік Аляксандр Стэльмашук, 1941 года нараджэння, пазнейшы пракурор, які хадзіў у тое прадшколле. Менавіта да вайны Галена Амельяновіч служыла ў жыдоў у Беластоку. Пры першых саветах зноў служыла — у нейкага генерала. Пасля немцы вывезлі яе на прымусовыя работы пад Кёнігсберг. Калі зімою 1945 года ўвайшлі туды саветы, яе прызвалі ў Чырвоную Армію — была санітаркай. Разам са шпіталем дайшла аж пад Берлін, а калі горад здаўся, ейны шпіталь перабазіравалі на Далёкі Усход, на японскі фронт. Восенню яе дэмабілізавалі ў Хабараўску, атрымала дакументы і грошы на вяртанне; прывезла таксама многа баявых адзнак — М. М.)

Мама хварэла на лёгкія, ляжала ў ложку сем гадоў. Была прыгожай жанчынай, але хвароба яе моцна паднішчыла. Памерла пражыўшы 42 гады. Тата вельмі любіў маму, хадзіў да яе, калі яшчэ была дзеўкай. Але яна выйшла замуж за Дзяніса Багацэвіча, матроса. Нарадзілася ў іх трое дзяцей: Зоя, Ніна і Міша, але ўсе памерлі зараз пасля родаў. Неўзабаве памёр і Дзяніс. Калі мама аўдавела, тата хацеў з ёю ажаніцца, але ейныя браты былі супраць новаму замужжу. Па-першае таму, што была адзіночкай, а па-другое — забедны быў той Амельяновіч. Але і так пажаніліся.

Калі мінулі тры гады ад маміная смерці — мне тады было семнаццаць гадоў — тата зноў ажаніўся, жонку ўзяў з Міклашоў. Нарадзілася яшчэ трое дзяцей: Федзя, Аня і Аліна. Федзю я па сутнасці выгадавала.

У пасляваенны час закончыла я сем класаў. Некаторыя мае сяброўкі, як Валя Агіевіч, сталі на працу ў бюро, а я выбрала фізічную працу ў мясарні. Праца была вельмі цяжкая. Тады не было ў мясарнях такіх халадзільнікаў як сёння. То людзі, для заробку, бралі лёд з Арлянкі і звозілі яго фурманкамі ў падвал каля мясарні. І бывала так, што мяснікі-мужчыны напапіваюцца і паўцякаюць, а я з кіраўніком Савіцкім, хаця і ён быў падпіты, валочым той лёд з падвала, і я раскладала яго ў ваннах. Аж да лета трываў той лёд і трымаў адпаведную для захоўвання мяса тэмпературу.

З некаторымі было цяжка працаваць. У працы была г.зв. точка, гучнагаварыцель, і адзін мяснік заўсёды настаўляў яе на ўсю моц, так што нічога іншага немагчыма было пачуць. Я выключыла яе, то піхануў мяне на вагу так, што паламалася мне ключыца (obojczyk). Завёз мяне Толік Несцяровіч да кастаправа ў Вілюкі. Але далей працавала, адной рукой, бо не было прыбіральніцы.

Калі яшчэ я працавала ў старой мясарні, кіраўнік Мікалай Стэльмашук паслаў мяне на чаляднiцкiя курсы, а пасля на майстроўскія ў Харошчы. Пасля працавала ў новай арлянскай мясарні (зліквідаванай каля дваццаці гадоў таму, прададзенай і замененай на кандытарскую майстэрню, якая неўзабаве збанкрутавала — М. М.). Там бывалі канфлікты з мясарамі і пайшла я на працу ў Шчыты, на свінаферму, дзе працавала аж да выхаду на пенсію. Мясары хацелі, каб я вярнулася да іх...

* * *

Спадарыня Яўгенія ў 1951 годзе выйшла замуж за Івана, нарадзіла двое дзяцей: дачку Шуру (жыла ў Варшаве, молада памерла) і сына Гіпаліта. Аўдавела некалькі гадоў таму, мае праўнукаў.

## Сёлета на Яна

Свята Нараджэння Яна Хрысціцеля адзначаецца штогод 7 ліпеня. У гэтым годзе выпала яно ў суботу. Для мяне гэта якраз дзень вольны ад працы. Вырашыла я паехаць з Бельска-Падляшскага ў вёску Пасынкі. Надвор'е было вельмі сонечнае. Раніцай найперш я завітала на магілкі, дзе пахаваны мой тата Міхаіл і бабуля Оля з дзедкам Янам. Паставіла я на магілцы лямпачкі, памалілася і накіравалася ў царкву, дзе пачыналася багаслужба. Людзей было многа, асабліва прыезджых, служыла запрошанае духавенства. Вельмі цікава было мне сустрэцца з жыхарамі вёскі Зубава. Перш за ўсё маю на думцы старэйшых жанчын. Паўспамінаалі мы, заплакалі...

Хачу сказаць, што сёлетняе свята для мяне — вельмі сумнае, таму што 10 чэрвеня памерла мая мама Аляксандра. І, як ніколі дагэтуль, на гэты раз я не паехала ў родны хутар Зубава, таму што мой дом ужо заставаўся закрытым і пустым. Ды і была надта вялікая спякота, каб так многа ездзіць на веласіпедзе.

Пасля літургіі затрымалася я каля крамнікаў. Неяк было вяртацца, каб не купіць адпустовых цукеркаў. Мне вярнуліся ўспаміны, калі мама мне і брату Сцяпану давала грошы на цукеркі і цацкі. Цяпер і брат мой не жыве ўжо. Засталася я сама са сваімі ўспамінамі. Малілася я за сваіх адышоўшых блізкіх і ў такой атмасферы праходзіла свята. Калі я сабралася ехаць дамоў, заўважыла, што ў заднім коле сышло паветра. Людзі прабавалі мне дапамагчы, але нічога не атрымалася. Я многа дарогі ішла пехатою, згары прыпякала сонца. „Вось табе і ахвяра, і малітва", — падумала я, сапраўднае свята. Калі я дазванілася дамоў, мяне забралі з дарогі. Так вось дарога ў гэты святочны дзень была для мяне не толькі малітоўнай і надоўга застанецца ў маёй памяці.

**Жэня МАРТЫНЮК**

Міраслаў ВЕЛЬЦ

## Мне снілася

*Мне снілася.*
*Уваскрэслі*
*Бяшчадскія Царкоўкі.*
*Раскрадзеныя*
*дошка па дошцы*
*камень па камені*
*спаленыя жыўцом*
*затопленыя вадой*
*уваскрэслі.*
*Апоўдні бліснулі*
*сярэбраныя купалы.*
*Зараілася карагодам*
*белых сарочак*
*стракатых хустак.*
*Ціхім пошумам*
*спякотнага дня*
*венгерскі вецер нёс*
*голас званоў*
*праз усе Бяшчады:*
*бім-бом, бім-бом.*
*Мне снілася.*

## Званіца разбуранай Царквы

*Выскаленыя зубы муру*
*пустыя вачніцы*
*на спічастых вокнах*
*яшчэ двух паўкругаў*
*званіцы якой*
*вырвалі сэрцы.*
*Парослыя травой магілы*
*чорныя крыжы*
*пагосту старога.*
*Руіны Царквы*
*з якой*
*выгналі Бога.*

*Пераклаў з польскай мовы*
**Віктар Швед**

# Ініцыятыўная моладзь

У Чаромсе на Новым пасёлку, які ўзнік ва ўрочышчы „Каганка", пражывае каля трохсот жыхароў. Ёсць там шмат моладзі. Калі два гады таму загаварылі аб асфальтаванні жылога квартала, моладзь прад'явіла ідэю будовы футбольнай пляцоўкі. А была такая магчымасць, бо на ўзбярэжжы вуліцы Кляновай ляжала некалькі гектараў непрыдатнай зямлі. Думку маладых адобрылі радныя з пасёлка. Падтрымку аказалі Януш Ліпінскі, Міраслаў Лук'янюк, Вячаслаў Барташэвіч (намеснік старшыні Рады гміны) ды Мікалай Самасюк.

Рада гміны вызначыла ўчастак пад будову міні-стадыёна на Новым пасёлку. Маладыя зразу ўзялі справу ў свае рукі. Узаралі поле, пасеялі траву, падсыпалі штучныя ўгнаенні. Затым паставілі з боку лаўкі, памалявалі. І ўсё гэта рабілі за свой кошт.

Праз год пляцоўка была гатовая. Засталося чакаць інаўгурацыі. А такая нагода трапілася ў час летніх канікулаў. Моладзь рашыла сарганізаваць на пасёлку футбольны турнір. Для гэтай мэты распаўсюдзілі абвесткі з запрашэннем да ўдзелу ў спаборніцтвах. Імпрэзу назвалі „Пікнік з мячом". Заявы прад'явіла сем каманд: шэсць — чаромхаўскіх і адна з Кляшчэляў. Паколькі арганізатары не распараджаліся фінансавымі сродкамі, спатрэбіліся грошы на прызы для пераможцаў і пачастунак для ўдзельнікаў. Пачатак зрабілі згаданыя радныя. Далі яны добраахвотную складчыну, а юныя спартсмены пахадайнічалі яшчэ перад жыхарамі пасёлка. Шматлікія жыхары прызначалі невялікія сумы на мерапрыемства.

Турнір адбыўся 14 ліпеня. У выніку лёсавання каманды падзяліліся на дзве групы — 1: Czarni, AC-Pajace, Oldboye, 2: WNO, Bilbao, FC Jałowcowa, Młodzi. Розыгрыш пачаўся ў 13 гадзін і доўжыўся амаль чатыры гадзіны. У выніку ў першай групе перамаглі „Чарні", на другім месцы апынуліся „Ольдбое", а на трэцім — „АЦ-Паяцэ". У другой групе перамагло „ВНО", на другім апынуліся „Млодзі", на трэцім — „Більбао", а на чацвёртым — „ФЦ Яловцова". Гэтая апошняя каманда адмовілася ад матча. Варта адзначыць, што атракцыёнам турніру былі пенальці забітыя дзяўчатамі (самая малодшая ўдзельніца — дашкольнага ўзросту). Кожная з іх атрымала ў падарунку „Снікерс".

Фота Уладзіміра СІДАРУКА



Вячаслаў Барташэвіч уручае пераможцам памятныя значкі (з правага боку Міраслаў Лук'янюк, з-заду Мікалай Самасюк)

У фінале „Чарні" змагаліся з камандай „Млодзі". Канчатковы вынік турніру: першае месца — „Млодзі", другое — „Чарні", трэцяе — „ВНО". Гэтыя каманды атрымалі з рук намесніка старшыні Рады гміны Вячаслава Барташэвіча памятныя значкі з надпісам: „I — II — III ( адпаведна занятым месцам) miejsce w Turnieju Piłki Nożnej 14.07.2012 r. Czeremcha, ul. Klonowa". Галоўным суддзёю быў Януш Казбярук, суддзямі на лініі — Міраслаў Лук'янюк і Мікалай Бідуля. Ролю спартыўнага каментатара выконваў Мікалай Самасюк. Пра музычнае афармленне задбалі Адам Іванюк і Анджэй Макульскі. Актыўнымі футбалістамі аказаліся Г. Маркевіч, Нічыпарук, М. Самасюк, М. Саласцюк, М. Алексяюк, Р. Кулачэўскі, М. Габрышук і А. Раманюк. Пасля турніру арганізатары запрасілі ўдзельнікаў спаборніцтваў і прысутную публіку на супольны пачастунак у суседнім бярэзняку, пад камуфляжнай сеткай. Было піва з бутэрбродамі і каўбаскай. Царыла мілая сяброўская атмасфера. Па ацэнцы арганізатараў, у імпрэзе ўдзельнічала каля сотні чалавек. Можна сказаць, што „Пікнік з мячом" быў удалым мерапрыемствам. Удзельнікі праявілі ахвоту арганізаваць чарговыя імпрэзы пры пячэнні каўбаскі на вогнішчы і... спартыўных гульнях.

Падагульняючы можна сказаць, што моладзь у Чаромсе на Новым пасёлку — ініцыятыўная. Іх каштоўная грамадская ініцыятыва вартая падтрымкі і пераймання.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Пераджніўныя турботы

Хутка ўжо на вёсцы пачнецца вялікая работа, гэта жніва. А яно дасць падлік цяжкай працы селяніна. Можна сказаць, што селянін кожны дзень па працы не тужыць, таму што калі хоча працаваць, дык кожны дзень работу знойдзе. То падмесці, то штосьці паправіць, туды-сюды заглянуць. А руплівага гаспадара ўсюды штосьці чакае. Толькі лянівы, што працаваць не хоча, на ўсё не мае сілы і з працавітага рагоча. А добры селянін, адкуль у зямлю збожжа пакладзе, датуль, пакуль яго не збярэ, рук надарэмна не зложыць. Таму што ўсё патрабуе догляду.

Увосень і навесну трэба пільнаваць ці вада яго не залівае. Дзесьці трэба падкапаць, г.зв. прагон зрабіць, да суседа ваду пусціць. А сусед яе пусціць далей і яна паплыве аж ручай зробіцца, а ручайком да рэчкі дабяжыць і рэчкаю ў мора. Там вадзе месца і там яна нікому гора ўжо не прычыніць. Аб гэтым селянін павінен помніць.

А на яго працы скарыстае не адзін. Вось, падкарміць пасевы надышла пара. Бяры трактар, насыпай угнаенні і хутчэй на пасевы азімых выязджай. Бо вядома: як падсыплеш, так пажнеш. А як пра гэта забудзеш — малы плён. Ага: а дзе ўгнаенне тваё? На складзе асталося. Не наракай, а тое што вырасла — збірай. І на будучыню ведай: калі хочаш ураджай добры мець — перад жнівом трэба пасевы добра даглядаць. А яны патрабуюць, каб у час ім усё падаць. І так безупынна — аж да жніва каля ўсяго хадзі рупліва. А найгоршае можа здарыцца перад жнівам, калі надыдзе дажджлівае надвор'е з праліўнымі дажджамі, гром загрыміць, зашуміць лівень, вецер закруціць як на чортавым вяселлі. Невядома адкуль возьмецца градавая хмара і так лупане па збожжы, што мала яго астанецца для жніва. Вось табе, селянін, твая праца, твая надзея на пасляжніўны прыбытак...

Так у нас было 4 і 5 ліпеня 2012 года, на палетках, што на поўнач за шашою, пад вёску Шастакова. Град пабіў пасевы, вецер дарэшты пакруціў і паклаў збожжа. У некаторых сялян не будзе чаго і збіраць. Вось табе ўраджай і даход. Турботная і цяжкая праца селяніна пайшла пад ногі.

Селяніну на вёсцы лёгка жывецца. Даўней гаварылі, што мужык спіць, а яму расце. А цяпер селянін спіць, а яму чорт малоціць. І не пачакае да жніва, да якога так мала аставалася.

Выйдзеш за ваколіцу, то ўжо ў паветры хлебам пахне. Здаўна пагаворку ў народзе перадавалі: „На святога Ілію свежага хлеба ў печ налію". А вазьмі налі, калі збожжа град пабіў. І нідзе на яго права не знойдзеш.

А цяпер і таго дачакалі, што і ўспамогі за гэта не атрымаеш. Збожжа не застрахавана ад такіх выпадкаў. Людзі самі гэтага не робяць. Памятаюць як даўней было, калі страхаваць прымушалі, а за панесеныя страты кампенсацыі не атрымлівалі, а хутчэй не аднаго ашуквалі. Цяпер яшчэ горш прыходзіцца — за страты зусім шыш атрымаеш. Нібыта прыехаў якісьці прадстаўнік дзяржаўнай управы, пахадзіў па сялянскіх палях, паглядзеў і на канец сказаў, што кампенсацыя за страты не належыцца. Калі ў каласку асталося некалькі зярнят, гэта яшчэ можна абмалаціць, крышку з гэтага будзе. А калі сцябло зламана — таксама можна малаціць.

Адзін дзядзька не вытрымаў і пацiху адазваўся:

— Каб узяў дубінку ды вымалаціў цябе, дык тады такіх слоў нам не ўціскаў бы. Так выглядае, быццам мы прыехалі з горада і толькі што пачалі гаспадарыць. Дзе ж ты бачыў, паночку, каб зламанае сцябло ажыло і праз некалькі тыдняў даспела. Яно ж за некалькі дзён на такім жарышчы засохне і з зерня нічога не будзе. Кругом страта.

— Можа і так, — кажа паночак. — Ну, у канцы хай вы мяне перакаляі. Толькі больш вам не дам, як трыццаць працэнтаў страты.

Вось такую то гутарку можна пачуць паміж мужыкамі і вучонымі людзьмі з горада. Толькі мужык мусіць панесці страты. Так яно было і будзе, хаця заўсёды ўзвралі нас, што адносіны паміж дзяржаўнымі чыноўнікамі і сялянамі з году ў год будуць мяняцца. Многа вады ўжо ўцякло ў мора, але як да гэтай пары было, так далей астаецца.

А мужык як быў мужыком, так і ім астанецца. Смярдзеў каравай і надалей ёю смярдзіць. Толькі цяпер можа інакш завецца — бізнесмен. А што гэта дае? Як гаршка ў печ не ўпіхай, усё роўна гаршком астанецца. Такое гэтае сялянскае жыццё. Знай: працуй, падаткі плаці, перад другімі шапку скідай. Ну, можа крышку змянілася, бо на калені не кажуць ставаць. І бізуном па спіне не лупцуюць.

На сёння даволі. Таму што штораз то горш атрымліваецца мая пісаніна. Можа сонца ёй не спрыяе. А можа ў галаве ўжо парадку няма. Выбачайце тады мне. А калі што не так, дык пішыце, паспрабую паправіцца. А як не — перастану. І так я адсталы ад усіх. Усе ўжо па-новаму пішуць, а я далей уручную пішу. Стары Мароз па-старому піша. З вялікай пашанай усім.

**Грыша МАРОЗ**

# У вянок Лукашу Дзекуць-Малею

■ Сяргей ЧЫГРЫН

Быў у Мінску. У адной з кнігарняў набыў выдатную кнігу „Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі" (Брэст 2011). Абмінуць яе я проста не мог. Папершае, Дзекуць-Малей — мой зямляк, родам са Слонімшчыны. Па-другое, ён — беларускі святар, патрыёт, перакладчык. Патрэцяе, гэта першае сур'ёзнае даследаванне жыцця, дзейнасці і творчасці Лукаша Дзекуць-Малея. Гэта ён у пісьме ад 22 кастрычніка 1928 года пісаў Антону Луцкевічу: „Дай Бог, каб мы маглі дачакацца не толькі выхаду ў свет поўнага Евангелля з Псалтырам, але, каб маглі ўбачыць поўную Біблію на нашай роднай мове беларускай".




Зборнік матэрыялаў, артыкулаў і дакументаў не мог не быць цікавым, змястоўным, сур'ёзным выданнем. Над ім працавалі вядомыя даследчыкі духоўнай гісторыі нашай Бацькаўшчыны — Лена Глагоўская, Андрусь Унучак, Сцяпан Пекун, Уладзімір Ляхоўскі, Андрэй Чарнякевіч, Аляксандр Ільін, Захар Шыбека, Юрась Бачышча. Разам яны зрабілі добрую справу — гэтым выданнем ушанавалі памяць беларускага пастара, якога смела можна паставіць у адзін шэраг з самымі выдатнымі беларусамі XX стагоддзя.

Аўтары зборніка грунтоўна прааналізавалі гарадзенскі „эпізод" жыцця пастара Лукаша Дзекуць-Малея, яго дзейнасць у дакументах Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, на аснове новых крыніц распавялі пра беларускі пераклад „Новага Запавету і Псалмоў" (1931), пра ўзаемаадносіны Дзекуць-Малея з Антонам Луцкевічам, Янам Пятроўскім, дзейнасць пастара на ніве беларускай школьнай справы ў Гродне і г.д.

Сапраўды, у 1920-1930-я гады ідэя перакладу і гістарычная інтэрпрэтацыя на беларускай мове Святога Пісьма станавіцца нацыянальнай справай. Цікавіла яна і такіх вядомых беларускіх дзеячаў, як Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Радаслаў Астроўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Гальяш Леўчык, Аляксандр Уласаў, Кастусь Езавітаў. У праваслаўным асяродку да гэтай справы далучыліся святар Васіль Рамаюоўскі і Сяргей Паўловіч. У пратэстанцкім асяродку адным з першых, хто звярнуўся да ідэі перакладу, быў менавіта Лукаш Дзекуць-Малей. Ён перадаў свае пераклады са старaславянскай мовы Новага Запавету Антону Луцкевічу, і той захапіўся працай, бо ўбачыў у перакладзе не толькі сродак сцвярджэння і прызнання беларускай мовы, абуджэнне нацыянальнага гонару, але і сродак паяднання беларускага народа. У 43 гады Бог даў Лукашу Дзекуць-Малею магчымасць убачыць і патрымаць у руках плён сваёй 10-гадовай тытанічнай працы — „Новы Запавет і Псалмы" на беларускай мове.

Як пішуць ва ўступным слове да кнігі Юрась Гецэвіч і Андрусь Унучак, выданне „Новага Запавету і Псалмоў" цяжка перааценіць. У той час, калі ў БССР нішчылася нацыянальная інтэлігенцыя, знішчалася царква і гвалтоўна фармаваўся савецкі народ, у Заходняй Беларусі, што ўваходзіла ў склад Польшчы, моцна закаранялася хрысціянства. 25 тысяч асобнікаў „Новага Запавету і Псалмоў" разышліся даволі хутка. Працу пастара Л. Дзекуць-Малея вельмі высока «ацанілі» бальшавікі, засудзіўшы яго ў чэрвені 1941 года да смяротнай кары. Выратаваў святара толькі пачатак нямецка-савецкай вайны. Вымушаны, у выніку ваенных падзеяў да канца жыцця жыць у польскім Гданьску, пастар Лукаш і там пакінуў пасля сябе добрую памяць. Як доказ гэтага, адна з вуліц Гданьска носіць ягонае імя.

У выданні „Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі" апублікаваны і пісьмы Дзекуць-Малея і яго жонкі Серафімы да Антона Луцкевіча і Яна Пятроўскага, выяўленыя ў архівах Ленай Глагоўскай. Я шмат гадоў сябраваў з Янам Пятроўскім, перапісваўся з ім. Ён даволі часта прыгадваў добрымі, шчырымі словамі маіх землякоў Лукаша Дзекуць-Малея і Гальяша Леўчыка. У адным з пісем, што змешчаны ў кнізе, да Антона Луцкевіча ў 1926 годзе пастар Лукаш жадае, каб Бог „мог нарадзіцца ў душах мнагапакутнага беларускага народу і каб у цемры ўбачылі святло Таго, хто так цяжка пакутаваў, каб людзі з Яго сілаю ўсё перамаглі і сталіся Яго дзяцьмі". У пісьме да Яна Пятроўскага 13 студзеня 1945 года Дзекуць-Малей зычыць, „каб святло нашага Госпада засвяціла ўва ўсе куткі нашай маці-Беларусі".

Змешчаны ў кнізе і цікавыя дакументы, матэрыялы да гісторыі перакладу „Новага Запавету і Псалмоў" на сучасную беларускую мову (1925-1932), знойдзеныя ў архівах Юрасём Бачышчам.

Упершыню публікуюцца ў кнізе дакументы, адшуканыя ў архівах Уладзімірам Ляхоўскім і Андрэем Чарнякевічам, якія распавядаюць пра беларускія школьныя справы Дзекуць-Малея ў 1919-1921 гадах у Гродне. З гэтых дакументаў, напрыклад, можна даведацца аб тым, як 22 кастрычніка 1919 года Дзекуць-Малей выступіў з дакладам аб адабранні польскім школьным інспектарам п. Рафалам Вазьнякоўскім будынка Пушкінскай школы, дзе знаходзілася Першая гродзенская беларуская школа і аб становішчы, перанесенай у будынак Мар'інінскай гімназіі беларускай школы і яе настаўнікаў. Публікуецца і ліст старшыні Беларускай школьнай рады ў Гародні Лукаша Дзекуць-Малея да Прэзідыума Цэнтральнай беларускай школьнай рады ў Менску ад 6 чэрвеня 1920 года і г.д. Няпроста тады было беларускаму школьніцтву, і, што дзіўна, гэтыя праблемы і знішчэнні беларускіх школ працягваюцца і сёння, хаця прайшло ўжо каля стагоддзя.

У кнізе змешчаны вельмі цікавы і грунтоўны артыкул Сцяпана Пекуна, які распавёў пра жыццёвы, творчы і багаслужбовы шлях Лукаша Дзекуць-Малея. З яго чытачы даведаюцца, што ў 1946 годзе жонка пастара Лукаша, Серафіма, разам з дзецьмі прыехала з Савецкага Саюза ў Польшчу. Іх сустрэча адбылася ў Беластоку. Пасля таго яшчэ сем гадоў пражылі яны разам. Але час, праведзены ў высылцы, падарваў здароўе спадарыні Серафімы. Там яна перажыла тры інфаркты, адзін раз была ў стане клінічнай смерці, працавала на лесапавале. Але ласка Божая ахоўвала іх. Вяртанне жонкі нібыта аднавіла сілы Лукаша Дзекуць-Малея. Акрылены, ён узяўся за працу ў царкве Гданьска. Але ў 1953 годзе Серафімы не стала. Пастар Лукаш пражыў яшчэ два гады і памёр 20 студзеня 1955 года. Труну з целам неслі на руках ад царквы да могілак. Было шмат людзей. Пахавалі беларускага святара, патрыёта, перакладчыка і грамадскага дзеяча ў Гданьску на гарнізонных могілках...

Пісаць і ацэньваць зробленае Лукашом Дзекуць-Малеем можна бясконца. Таму гэтае выданне — толькі першая цаглінка ў падмурак даследаванняў пра яго.

## Балаховіч і Купалле



Купалле ў Польшчы святкуецца амаль цэлы месяц, пачынаючы з 23 чэрвеня ды ў палове ліпеня канчаючы. Розныя назвы даюць гэтаму святкаванню: Купалле — каб звярнуцца да яшчэ язычніцкай традыцыі славян, Ноч св. Яна — каб падкрэсліць хрысціянскія крыніцы ды апошнім часам надта ж папулярныя «Вянкі» — каб было зручней ды больш па-свецку. Вядома, у асноўным ідзе пра тое ж самае — каб прыемна пагуляць, прывітаць лета.

Галоўнае падляшскае святкаванне купальскай ночы ў Белавежы ўжо прайшло. Дык калі пачыналіся першыя купальскія мерапрыемствы ў Польшчы, 23 чэрвеня, некаторыя беларусы ды іхнія сябры вырашылі паехаць у іншы бок, пакінуць традыцыйнае святкаванне ды наведаць станцыю пад загалоўкам Гісторыя. Арганізацыя Беларуская нацыянальная памяць ды яе лідар Анатоль Міхнавец задумалі ўшанаваць памяць генерала Язэпа Булак-Балаховіча, брата легендарнага генерала Станіслава Булак-Балаховіча. У сувязі з тым невялікая група аматараў прыехала цягніком з Варшавы ў Гайнаўку са сваімі веласіпедамі, каб з-пад Музея беларускай культуры распачаць роварны рэйд памяці Язэпа Булак-Балаховіча.

Беларуская нацыянальная памяць не першы раз ушаноўвала памяць генерала Язэпа Булак-Балаховіча. Пра ягонага брата, Станіслава, таксама часта ўспамінаюць. Напрыклад, 13 траўня гэтага года ў Варшаве адбыўся рэйд памяці па месцах звязаных з ягоным імем.

Удзельнікі велапрабегу праехалі з Гайнаўкі ў Белавежу па галоўнай шашы з прымацаванымі да ровараў бел-чырвона-белымі сцягамі. Наведалі яны крыж на Гары Баторыя на месцы гібелі генерала. Калі ўжо дабраліся ў Белавежу, найперш прыехалі на белавежскія могілкі, дзе запалілі зніч на магіле Язэпа Булак-Балаховіча.

Самы малодшы ўдзельнік велапрабегу меў толькі крыху больш чым гадзік. Аказалася, што нашы сябры вырашылі прыехаць са сваім малым сыночкам. Нашая падляшская гасціннасць мела нагоду праявіць сябе на практыцы. Мы запрасілі цэлую камерную групку веласіпедыстаў на вогнішча. Такім спосабам гісторыя сутыкнулася з традыцыяй. Мы ўсе гулялі пры цёплым полымі на белавежскім лузе непадалёк сажалкі ды ракі. Каўбасы смажыліся, вяліся гутаркі — пераважна на беларускай мове, некаторыя гулялі ў бадмінтон. Наш сыночак знайшоў новага сябру. На канец словы «Купалінкі» панесліся па белавежскай паляне. Наступнага дня раніцай мы развіталіся з сябрамі, якім трэба было паспець на цягнік з пушчанскай сталіцы ў сталіцу Польшчы.

У такой камернай атмасферы вельмі прыемна святкаваць Купалле. Плануем гэтае паўтараць. Калі ўдасца, можа паспеем яшчэ ў гэтым годзе.

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl



# Афрыка ў Дубічах-Царкоўных

Барабаншчыкі

На Падляшша завітаў афрыканскі клімат — аб гэтым пераканаліся ўдзельнікі чарговага летніка, арганізаванага аб'яднаннем АБ-БА. Увесь першы тыдзень ліпеня амаль сорак вучняў Пачатковай школы № 4 у Беластоку (ды Міхась з Варшавы) актыўна і крэатыўна адпачывала ў Дубічах-Царкоўных.

Дастаткова ўжо высокую ліпеньскую тэмпературу паветра бесперапынна падымалі гарачыя гукі барабанаў, на якіх вучыліся іграць школьнікі. Такіх рытмаў, мабыць, ніколі ў Дубічах не чулі, асабліва ў такой частоце і ў такім аб'ёме. Паколькі барабаны карысталіся, здаецца, найбольшым зацікаўленнем дзяцей, каб інструменты не пацярпелі зашмат з-за назапашанай у час навучальнага года энергіі, удзельнікі летніка мелі ў распарадку дня іншыя заняткі і майстар-класы.

— На танцах з панам Маратам заўсёды найбольш стамляемся, — некаторыя наракалі на хуткія крокі і фізічныя практыкаванні, але на перапынках калідоры поўніліся спевам „Ойра, ойра!”, а сіл хапала яшчэ на бадмінтон і футбольныя матчы на школьнай пляцоўцы.

У прыстасаваным на музей будынку, дзе раней змяшчалася школа, адбываліся заняткі па вырабе кветак з каляровай паперы. Шмат якія экспанаты дзеці змаглі выкарыстаць на практыцы. Вось, хлопцы ўважліва і старанна ткалі на кроснах, а некаторыя асобы ледзь не папалі ў печ на доўгай лапаце для хлеба. Акрамя рукадзелля і спорту школьнікі займаліся падрыхтоўкай пастаноўкі па народных матывах ды часта спявалі.

— Летнік хутка мінае, таму што мы добра тут гуляем, — вось так і незаўважна прамінуў тыдзень, а на адмысловую прэзентацыю вынікаў майстар-класаў у Дубічы прыехалі бацькі. Заканчэнне атрымалася файнае! Застаецца чакаць чарговых канікулаў, чарговага летніка, чарговых сюрпрызаў!

**Ганна МОРДАНЬ**



Змаганне з іголкай






Майстар-ткач



Беларускія ніндзі



Кветкі для мамы

Фота Эвы Сегень і Ганны Мордань

# Не хацеў парваць сувязі з Беласточчынай

*Рэдакцыя „Учора, сёння, заўтра" правяла інтэрв'ю з Міхасём Сцепанюком, журналістам Радыё Беласток (раней Радыё Рацыя і „Нівы"), шматгадовым старшынёй ЗБМ, найстарэйшым удзельнікам Сустрэч „Зоркі".*

*УСЗ: — Звычайна бывае так, што дзеці гавораць па-свойму, на дыялекце ў хаце, а пасля ў школе вывучаюць беларускую літаратурную мову. Як было ў Цябе?*

МС: — Спачатку я гаварыў толькі папольску. І не скажу, каб беларуская мова мяне цікавіла, я проста яе не ўспрымаў. Усё памянялася, калі пачала мяне вучыць пані Валянціна Бабулевіч. Пасля, калі я вывучыў літаратурную мову, хутка навучыўся гаварыць па-свойму.

*УСЗ: — Якія ў Цябе ўспаміны з бельскай „тройкі"?*

МС: — Сказаўшы праўду, у мяне найлепшыя ўспаміны. Цяпер часта езджу туды як журналіст. Там заўсёды добра сябе адчуваю. Скажу вам яшчэ, што я хацеў бы, каб мае дзеці хадзілі ў такую школу як я. Я нават гатовы іх кожны дзень вазіць з Беластока ў Бельск...

*УСЗ: — Як Ты папаў на Сустрэчы „Зоркі"?*

МС: — Калі я быў у чацвёртым класе, дахаты прыйшоў ліст на беларускай мове. Мая маці не ўмела яго прачытаць і мы чакалі аж вернецца з працы бацька. Калі прыйшоў бацька, мы ўсе даведаліся, што гэта запрашэнне ад „Зоркі" ў Меляшкі. Я раней напісаў артыкул у „Зорку". Мама не занадта хацела, каб я ехаў, бо ж далёкая дарога... А бацька, наадварот. Ён проста мяне выпіхнуў з хаты. Так пачалася мая прыгода з Сустрэчамі „Зоркі", якая цягнецца ўжо семнаццаць гадоў.

*УСЗ: — Ці Ты з дзяцінства марыў стаць журналістам?*



Фота Ганны Кандрацюк

МС: — Не, я проста не марыў, каб кімсьці стаць. Доўгі час я не ведаў, што буду рабіць у жыцці, чым буду займацца. Тое, што стаў я журналістам, атрымалася выпадкова і адначасова неяк нармальна...

*УСЗ: — Якія Сустрэчы „Зоркі" ўспамінаеш найлепш?*

МС: — Мне запамяталіся Сустрэчы ў Старыне, дзе наша рэдакцыя супольна пісала фельетон і я ніколі ў жыцці так не смяяўся, як тады...

*УСЗ: — Якая Твая роля на Радыё Беласток?*

МС: — Штодзень я працую ў рэдакцыі нацыянальных меншасцей, канкрэтна ў беларускай рэдакцыі „Пад знакам Пагоні". Я яшчэ рэпарцёр Радыё Беласток. Чытаю таксама навіны на польскай мове.

*УСЗ: — Якая была ў Цябе самая цікавая перадача?*

МС: — Гэта было ў час, калі я працаваў журналістам на Радыё Рацыя. Я паехаў запісаць удзельнікаў рэйда „Сьлядамі Лупашкі". Для беларусаў Лупашка адназначна адмоўны герой, пры тым яны мелі ісці цераз вёскі, пакрыўджаныя гэтым чалавекам. На месцы я сустрэў людзей у вайсковай форме і, вядома, крыху злякаўся... Але пасля ўсё пайшло нармальна. Я запісаў іх выказванні і спалучыў гэта з беларускім пунктам гледжання. Пасля, некаторыя мяне папракалі, што гэты матэрыял атрымаўся занадта „аб'ектыўны".

*УСЗ: — Як Ты стаў старшынёй Звязу беларускай моладзі?*

МС: — Мне тады было 20 або 21 год. Я вучыўся ва ўніверсітэце, жыў у Варшаве і не хацеў парваць сувязі з Беласточчынай. Дзейнасць у ЗБМ застаўляла мяне сюды вяртацца...

*УСЗ: — Што хочаш дасягнуць як журналіст?*

МС: — Хачу развівацца, рабіць цікавыя перадачы.

*УСЗ: — Якая каманда, паводле Цябе, пераможа на Еўра-2012?*

МС: — Іспанія! Я ад доўгіх гадоў балею за Іспаніяй. Мне падабаецца іх стыль ігры. Іншая справа, я па адукацыі іберыст, ведаю іх культуру, пэўны час жыў у Мадрыдзе.

# Музыка з кайфам

## За „Басовішча"!

Кожны год з нецярплівасцю чакаем «Басовішча», а яно так імгненна канчаецца. У апошнія выхадныя ўрочышча Барык, што каля Гарадка, не пуставала, як некаторыя варажылі сёлетняму выпуску фестывалю. Рэкордаў па ліку публікі не было, але як заўжды публіка не падвяла. У пятніцу, яшчэ на пару гадзін да адкрыцця, традыцыйныя шляхі, якія вядуць у славутую лясную паляну, напаўняліся вандроўнікамі зусім рознага ўзросту. Не можна сказаць, што фестываль толькі для маладзёнаў, бо таксама ахвоча дабіраліся на месца фестывалю аматары беларускай музыкі сталага ўзросту.

Калі гаворка пра музыку, то не магу сказаць, што ў музычным плане «Басовішча» сёлета чаго-небудзь здзівіла: нашмат было фарматных эксперыментаў, нашмат разнароднасці, можа і таму тая, як заўсёды цудоўная, публіка. Усё-такі чакала перш за ўсё металічных, цяжкіх гукаў, радасных рытмаў ска ці рэгі, а найлепш, каб не канчаўся рок, рок, рок... Варта толькі дадаць яшчэ, што добра пасялілася ў Барыку электроншчына. Чацвёрты, а можа і пяты год запар пасля канцэртаў публіку займаюць дыджэі. Пачаткова ўсё адбывалася ў белай фестывальнай палатцы, а зараз дыджэі валодаюць гэтак званай «плашчадкай» (хто пра «Басовішча» ведае нашмат, павінен даведацца, што на «плашчадцы» калісьці нават праходзілі рок-канцэрты, таму між іншым гэтае месца мае сваё значэнне ў гісторыі фестывалю, а чарговыя пакаленні арганізатараў стараюцца са штораз большай пашанай ставіцца да гэтай прасторы).

«Басовішча», ах «Басовішча»! Ты як мёд для беларускіх душаў на Падляшшы! Не спыняйся, развівайся, дазволь цешыцца Табой чарговым пакаленням!

Усё гэта будзе магчымым, калі наша моладзь, якая зараз ладзіць фестываль, не забудзе, што музыка развіваецца, што госты публікі патрабуюць, каб пра іх помніць і пра іх клапаціцца. Каб праз год у Барыку з'явіліся новыя слухачы, каб арганізатарам хацелася, каб музыкі змагаліся за час на сцэне і каб выступ на «Басах» быў выклікам і гонарам. Перад намі шмат цяжкай працы, але якой прыемнай!

i_basovka@o2.pl



www.racyja.com




# Польска-беларуская крыжаванка № 30

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеены кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 25:

Фея, толк, галка, мур, Оля, фартуна, футбаліст, Алік, тур, матор, саха. Фан, футра, мат, гурба. партал, улік, конік, Талас, тата, ух, культура.

Узнагароды, CD з дзіцячай беларускай музыкай „Сінязорка", выйгралі **Каміль Садоўскі** і **Магда Бяляўская** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Dzwonek | Woźnica | | Moda |
| | Świat / Talia | | | | | | |
| | | | Pozwolenie / Lena | | | | |
| | Jadło | Witka / Siła | | | | | Słoń |
| Klinek | Siano | | | | | | |
| | | | | | | No | |
| Jawa | Lakier | | | | No | | |
| | | | | Ton | | | |

■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Асавецкая крэпасць


Развалiны Зарэчнага форта

Аўтобус, што з Беластока мае завезці мяне ў Асавец, у Моньках кіруецца ў Ганёндз, а з Ганёндза зараз пераязджае Бобру і па яе правабярэжжы заязджае там жа ў вёску Асавец. Монькаўскі гісторык Аркадыюш Студнярэк піша пра Асавец так: „Nazwa Osowiec pochodzi od uroczyska puszczańskiego porośniętego osiną. Wieś powstała przed 1548 r. na terenie Puszczy Dybła, przy trakcie prowadzącym z Litwy na Mazowsze. W 1775 r. Osowiec otrzymał prawa miejskie”. Паколькі колішняя пушча Дыбла супадала прыблізна з сённяшнім Граеўскім паветам, дык трэба меркаваць, што згаданы горад Асавец быў недзе там, дзе зараз аднайменная вёска. Толькі вось клопат, што пра той горад звестак мала ды і тыя надта энігматычныя. Кніга Яраслава Клёзы і Юзафа Марошка п.з. „Dzieje Goniądza” падае: „Jeszcze w 1743 r. wzmiankowany był Osowiec jako miasteczko pod nazwą Marcinopol”. Зыгмунт Глогер у 1874 годзе пісаў: „W pośrodku Osowca i szerokiej ulicy wiejskiej, jak ratusz na rynku małego miasteczka, stała poważnie obszerna, staroświecka, z podsieniami gospoda. W kilka lat później, w miejscu wsi Osówca i gospody, powyższej wzniesioną została forteca „Osowiecka””. „Dzieje Goniądza”: „W 1882 r. karczmę rozebrano, a wieś Osowiec w związku z nowo budującą się twierdzą przeniesiono na inne miejsce, z dala od Biebrzy”. I невядома нават, калі мясцовасць той гарадскі ранг страціла. Дарэчы, нават парафія, як падае афіцыйны партал Ломжынскай дыяцэзіі, узнікла там толькі ў 1818 годзе; а што ж гэта за горад без парафіі…

Сёння назва Асавец, аднак, не асацыюецца з ніякім горадам — да гэтага тапоніма прыліпла слова крэпасць, twierdza. Зыгмунт Глогер так уводзіць тую крэпасць: „O pół mili poniżej Osówca, leży wieś Sośnia na lewym brzegu Biebrzy, oddalona od tej rzeki około tysiąc kroków. Pomiędzy wioską a Biebrzą, pośród łąk i moczarów, znajduje się piaszczysta wyspa, kilkanaście morgów rozległa, nazywana przez lud okoliczny *Szwedzkim mostem.* Miano to pochodzi naturalnie z czasów wojen szwedzkich, kiedy Szwedzi, idąc z Prus książęcych w głąb Polski, przeprawiali się tutaj z Mazowsza na Podlasie, tj. z ziemi Wizkiej do Bielskiej. Biebrza na całej długości trudna do przeprawy, bo mająca od swych źródeł do Goniądza brzeg prawy, a od okolicy Goniądza do połączenia z Narwią brzeg lewy bagnisty, posiada tylko pomiędzy Goniądzem i Sośnią obydwa brzegi dość przystępne, tworzące zatem przesmyk najdogodniejszy dla dróg, mostów i działań militarnych. I to właśnie wyjątkowe położenie stało się powodem, dla którego tu Szwedzi most zbudowali, a we dwa wieki potem kolej Brzesko-Grajewska tędy przeprowadzona, a następnie, przy stacyi Goniądz, twierdza Osowiecka na obu brzegach Biebrzy zbudowaną w tej okolicy została”.

„Шведскія” тапонімы з’явіліся там галоўным чынам пасля паходу караля Карла XII у 1708 годзе ў бок Палтавы; менавіта тудою ён перапраўляўся з Усходняй Прусіі ў Вялікае Княства Літоўскае. Вярнуся яшчэ крыху ў вёску Асавец: у 1919 годзе быў там пабудаваны драўляны касцёл, які згарэў у вайну ў 1944 годзе; чарговы, мураваны быў пабудаваны ў 1953 годзе. Зараз у вёсцы прынамсі дзве стацыянарныя крамы, святліца, дэпо…

Каля кіламетра ад вёскі, на поўдзень, у напрамку Бобры, крапасныя развалiны. Гэта рэшткі колішняга форта Зарэчнага. Галоўныя бастыёны асавецкай крэпасці знаходзяцца з другога, паўднёвага боку рэчкі; гэта тры форты — Цэнтральны, Шведскі і Новы.

У 1873 годзе была здадзенна ў карыстанне чыгуначная лінія з Кёнігсберга цераз Лык (Элк) і Беласток у Брэст ды далей у напрамку Кіева і Адэсы. Хаця чыгуначныя лініі ў Расійскай імперыі будаваліся галоўным чынам дзеля патрэб войска, аднак Брэсцка-Граеўская чыгунка атрымала і выдатную гаспадарчую нагрузку. Менавіта па ёй перавозіліся амаль усё збожжа з Украіны ва Усходнюю Прусію, вугаль, бавоўна ды шэраг іншых тавараў. Усё-такі царская імперыя не траціла з поля зроку і ваенных аспектаў, бо чыгунка пралягала па вузкім перашыйку між Ганёндзам і Сосняй цераз балоцістую па амаль усім цячэнні Бобру. 29 мая 1873 года цар Аляксандр II падпісаў рашэнне пра пабудову там ваенных фартыфікацый. Галоўныя работы пачаліся з 1882 года, пасля завяршэння вайны з Турцыяй у 1877 годзе. Спярша прадбачвалася пабудова дзевяці фартоў, але ваенныя затраты скарацілі гэты лік да чатырох. Былі пабудаваны толькі згаданыя раней фарты, а да іх шэраг дадатковых умацаванняў, у тым ліку передавых і флангавых.

Фарты былі абведзены высокімі насыпамі ды глыбокімі равамі. Напрыклад, вакол Цэнтральнага форта вадзяны роў мае зараз шырыню каля дваццаці метраў. Казармы і склады былі прыкрыты тоўстым зямным пакрывалам. Паміж Цэнтральным і Зарэчным фортамі была пабудавана спецыяльная дарога, захіленая ад прагляду і абстрэлу двухметровымі бакавымі валамі. На ўзбраенні крэпасці было каля двухсот гармат калібрам ад 57 да 203 мм.




Немцы падышлі пад Асавецкую крэпасць ужо 21 верасня 1914 года, але першы яе абстрэл пачаўся толькі пяць дзён пазней і доўжыўся два дні, спынены ў выніку расійскай контратакі. Чарговы штурм крэпасці пачаўся 3 лютага 1915 года. Немцам цяпер удалося выцесніць рускіх з першай лініі абароны і падвесці бліжэй крэпасці цяжкую артылерыю калібрам ад 100 да 420 мм. Абстрэл пачаўся 13 лютага; праводзіўся ён залпамі: кожныя чатыры мінуты на крэпасць ляцела па 360 снарадаў — цягам тыдня было выпушчана каля чвэрці мільёна снарадаў! Нягледзячы на такі шквальны агонь і выкліканыя ім многія пажары, крэпасць выстаяла. Да таго ж яшчэ крапасная артылерыя пашкодзіла дзве з чатырох „Тоўстых Бертаў”, якія білі па Цэнтральным форце ад чыгуначнага прыпынку Падлясэк…

Тоўстая Бэрта (ням. Dicke Bertha) была асадным мінамётам калібрам у 420 мм, спецыяльна прызначаным для разбурэння крапасных умацаванняў, так з караблёў, як і з грунту. Апошніх іх, вагою за 42 тоны, фабрыка Крупа ў Эсене выпусціла каля дванаццаці штук. Стралялі яны снарадамі вагою ў 810 кілаграмаў на адлегласць амаль дзесяці кіламетраў. Мянушку мінамёт атрымаў па адзінай дачцэ заснавальніка фірмы Krupp AG, якая на той час, пасля смерці бацькі, стала адзінай уласніцай акцый гэтага завода. Варта дадаць, што Тоўстая Бэрта паспяхова прайшла выпрабаванні на французскабельгійскім фронце ў час Першай сусветнай вайны. У час Другой сусветнай вайны прымянялася яна ў асадзе Севастопаля і Варшаўскага паўстання…

Абстрэл Асавецкай крэпасці доўжыўся да 5 сакавіка. Крэпасць выстаяла, цяжкія мінамёты былі адведзены ў тыл. Рыхтаванне да чарговай атакі крэпасці пачалося ў ліпені 1915 года; на гэты раз было прадбачана новае выпрабаванне…

6 жніўня 1915 года трыццаць нямецкіх газавых батарэй пусціла ядавіты хлор на расійскія пазіцыі. Амаль усе абаронцы, каля дзвюх тысяч салдат, перадавых пазіцый на лініі Белагронды — Сосня падушыліся, бо асавецкі гарнізон не быў забяспечаны ад такой атакі. Але загінула і каля тысячы немцаў, якія зарана кінуліся на штурм і трапілі ў газавае воблака. Да таго ж уцалелыя рэшткі расійскіх салдат з перадавых пазіцый, каля шасцідзесяці бледных і плюючых крывёю, пайшлі ў контратаку; атрымала яна названне атакі мерцвякоў.

Немцы адступілі, крэпасць — адзіная на нямецка-расійскім фронце — вытрывала чарговую атаку, аднак агульная стратэгічная сітуацыя прымусіла расійскае камандаванне да адступлення. Асавецкая крэпасць рыхтавалася да эвакуацыі, якая пачалася 18 жніўня; многія ўмацаванні былі ўзарваны сваімі сапёрамі. 23 жніўня немцы занялі чыгунку каля Кнышына і з той пары эвакуацыя гармат адбывалася людскою цягай: па 30-60 артылерыстаў цягнулі іх па начах на лямках па шашы ў Гродзенскую крэпасць, якую немцы занялі неўзабаве — 3 верасня.

Яшчэ адна цікавінка: у 1924 годзе еўрапейская прэса пісала пра рускага салдата, які ў час узрыву крэпасці быў засыпаны ў падземных складах з харчаваннем. Яго знайшлі палякі і калі вывелі на свет ён, пасля дзевяці гадоў у цемры, страціў зрок. Пасля лячэння перадалі яго ў Савецкі Саюз, дзе слых аб ім прапаў…

Зараз тры асавецкія левабярэжныя форты займае войска. Цэнтральны форт даступны для рэгламентаванага наведвання, Шведскі і Новы недаступныя. Правабярэжны Зарэчны форт разрушаны, уступ на яго тэрыторыю забаронены ў выніку некалькіх небяспечных выпадкаў, калі неасцярожных наведвальнікаў ратавалі санітарныя верталёты.

Абышоўшы Цэнтральны форт, падаўся я дарогай, па якой у жніўні 1915 года расійскія пехацінцы цягнулі на лямках свае гарматы ў гродзенскае бежанства, у напрамку Ганёндза, бо гэты горад таксама варты ўвагі. У ім два суседнія рынкі: Стары і Новы, а гэта паказвае, што ў даўніну існавалі там побач сябе два гарадскія арганізмы. А такая сітуацыя была тыповай для Падляшша, дзе побач сябе суіснавалі два гарады: ляцкі і рускі; так было ў Драгічыне, Суражы, Бельску, Вэнграве — кожны са сваім культавым збудаваннем. Гэта дазваляе меркаваць, што і ў Ганёндзы была калісь царква, у Старым рынку. Бо ў Новым рынку быў касцёл, пра што згадвае „Inwentarz miasta i starostwa” з 1571 года: „Kościół (...) stoi w Rynku, ale nie prawie w pośrodku, za nim domki kapłańskie i szkoła”. Па ім сёння стаіць адмысловы абеліск, а цяперашні касцёл — у нейкіх ста метрах за рысай рынку. Дарэчы, і пра ганёндзкія касцёлы даведкі быццам абшырныя, але ўсё ж такі энігматычныя; невядома, менавіта, калі касцёл быў пабудаваны ў новым месцы: ці пасля пажару ў 1779, ці пасля такой жа падзеі ў 1921 годзе. Цяперашні касцёл у Ганёндзы быў узведзены ў 1924 годзе; для яго пабудовы скарыстоўваўся матэрыял ад асавецкіх флангаў у Доўнарах.

А сам Ганёндз таксама ўзнік па той жа самай рацыі, што і Асавецкая крэпасць: каб ахоўваць ад яцвягаў ці крыжакаў той „przesmyk najdogodniejszy dla dróg, mostów i działań militarnych”. У сівую даўніну на высокім беразе Бобры быў пабудаваны замак. А ў тым замку пэўна бываў нейкі князь. Этымалагічныя даведнікі пра слова князь падказваюць подступы да яго: *кънязь* (Цыганенка) і *kniądz* (Брукнер). З гэтага этымалагічнага месіва, так як з міфічнага Хаосу, вылупілася пэўна і слова Ганязь з каралеўскіх дакументаў ды слова Goniądz з цяперашніх.

# Абразкі з „ваколіцы”

■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Співаючых дзяўчат з крынскай „Зараніцы” пакуль добра ведаюць у самай бліжэйшай ваколіцы. Там яны найчасцей дабіраюцца з баянам і дыктафонам, згэтуль паходзіць іхні асноўны рэпертуар.

Нядаўна „Зараніца” вырушыла у далейшае падарожжа следам „Pieśni białorusko-polskich z powiatu sokólskiego, gubernii grodzieńskiej”, запісаных прафесарам Янам Бадуэнам дэ Куртэнэ. У гэтай неацэннай для культурнай спадчыны Сакольшчыны публікацыі ён змясціў песні, якія пачуў ад няні сваіх дзяцей, тады амаль трыццацігадовай Юзэфы Бароўскай, якая ад чатырох гадоў пражывала ў Дэрпце. Юзэфа паходзіла з Гарчакоў — шляхецкай вёскі на Сакольшчыне. Ва ўступе да згаданай публікацыі, выдадзенай у Кракаве ў 1892 годзе Акадэміяй навук, чытаем: „Cały szereg takich wsi czyli „okolic” zamieszkały jest przez drobną szlachtę, zapisywaną zwykle z urzędu do liczby mieszczan pobliskiego miasteczka Odelska. Ta drobna szlachta używa w domu obu języków tak polskiego, jak i białoruskiego. Jedni mówią częściej po polsku, inni zaś po białorusku. W każdym jednak razie przeważa tu język białoruski. Pomimo to owa szlachta drobna uważa się za polaków, a to nie tylko ze względu na religię, są to bowiem prawie wyłącznie katolicy, ale także ze względu na tradycje polsko-szlacheckie. (...) Lubo językiem domowym jest tam przeważnie (mniej więcej w dwuch trzecich) język białoruski, to jednak na zebraniach liczniejszych, na weselach i t.p. owa drobna szlachta stara się mówić wyłącznie po polsku”.

„Зараніца” рашыла асабіста праверыць ці ў шляхецкай ваколіцы даўняй Адэльшчыны, сёння ўваходзячай у склад Шудзялаўскай гміны, яшчэ помняць старыя песні і ці не чужая ім беларуская гутарка.

* * *

Сёняшнія Гарчакі тэрытарыяльна дзеляцца на Ніжнія і Верхнія. Яны распаложаны ў маляўнічым ландшафце ўзгоркаў, парослых густым збожжам, акружаным грыбнымі лясамі і рыбнымі сажалкамі. Ужо пры ўездзе ў вёску захапляе сілуэт старадаўняга, высокага, драўлянага крыжа, традыцыйна акружанага дрэвамі і кветкамі, з выразаной на ім датай „1945 г.”. Яго паставілі зараз пасля адлучэння Гарчакоў ад роднага прыхода ў Адэльску. Тут было і надалей знаходзіцца месца апошняга развітання нябожчыка з роднай зямлёй у яго падарожжы на сакольскі могільнік. У памяці мясцовых жыхароў яшчэ захаваліся ўспаміны са штотыднёвых пешых падарожжаў на нядзельныя багаслужбы ў Адэльск. Помняць яны стары драўляны адэльскі касцёл з падлогай з сукаватых, гадамі выробленых дошак, на якой цяжка было кленчыць. Сямікіламетровая дарога вяла цераз Войнаўцы і Палестыну. Тут, на Сакольшчыне, былі дзве Палестыны — вёскі заселеныя яўрэямі. У адной, каля Клімаўкі, займаліся яны земляробствам, у другой — адэльскай каленіі Ізаакаў — выраблялі цэглу.

У полі паміж Гарчакамі-Верхнімі і Гарчакамі-Ніжнімі відаць перахілены каменны крыж. Яго паставілі зараз пасля Першай сусветнай вайны. Не так даўно жыхары Гарчакоў паставілі дзве капліччкі са скульптурамі Божай Маці, каб было дзе збірацца ў асноўным на ружанцы і травеньскія, чэрвеньскія і кастрычніцкія багаслужбы. Раней пад гэтымі капліччкамі сакольскі ксёндз ладзіў рэгулярныя сустрэчы з мясцовымі дзецьмі.

У вёсцы захавалася брукаваная вуліца і некалькі каменных фундаментаў, якія памерам напаміналі нейкі памешчыцкі панадворак. У Гарчаках, апрача колькасці жыхароў, усё здаецца быць надта вялікім: каменныя — амаль касцельныя — агароджы, пляцы, жылыя і гаспадарчыя пабудовы. На вуліцах не відаць характэрных астатнім вёскам лавачак. Іхнія пасядушкі праходзяць у глыбіні вялікіх панадворкаў у кампаніі сям'і і запрошаных гасцей. Не відаць там і бабуль у характэрных для нашага рэгіёна хустках на галаве. У старэйшых жанчын, якіх сустрэлі дзяўчаты з „Зараніцы”, кароткая стрыжка і штаны, чаго не ўбачыш у падкрынскіх сялянак.

Непадалёк ад вёскі, пасярод жытніх ніў, над сажалкай дзіка разрастаецца дворскі парк з фундаментамі даўняй памешчыцкай сядзібы дзвюх не параднёных з сабой сем'яў з аднолькавым прозвішчам Гарчак. Адзін з памешчыкаў прапаў, вывезены недзе саветамі. Ягоная жонка, уроджаная Сабалеўская, у час гэтага няшчасця прабывала ў сваякоў у Азёрку Шудзялаўскай гміны. Там і яна засталася. Жанчына сама выхоўвала дачку, якая цяпер жыве ў Аўгустове. Другія Гарчакі са згаданага маёнтка — сыны Антоні, Томаш і Юзэф — былі нежанатымі, патомства ад іх не засталося. Неяк у шляхецкую традыцыю ўпісалася позняя жаніцьба, а часам пажыццёвае старахалясцтва. Як жартам кажуць мясцовыя шляхцічы, гэта па прычыне звычайнай скупасці: багатыя не хацелі траціць грошай на чужых, у тым ліку і сваіх жонак. Кругом згаданай вёскі цягнуўся маёнткавы лес, самавольна ссечаны, між іншым, жыхарамі Гарчакоў і Сухініч.


Крыж з Першай сусветнай вайны

Дзякуючы ветлівасці маладога гарчакоўскага солтыса Адама Ігнатовіча, які гаспадарыць на мясцовым хутары, „Зараніца” папала ў хату найстарэйшай мясцовай жыхаркі, ахвотнай падзяліцца сваімі ведамі пра мінулае гэтай шляхецкай ваколіцы. Гаспадыня, даведаўшыся пра мэту візіту „Зараніцы”, далікатным паклонам, па-шляхецку, запрасіла незнаёмых дахаты.

Дзевяностадвухгадовая Рамуальда Пуцілоўская, уроджаная Алізаровіч, адзначаецца здароўем, якога могуць пазайздросціць ёй не толькі равеснікі, але і многія прадстаўнікі маладога пакалення. Выпадковага суразмоўцу захапляе яна ўпэўненасцю ў сабе, развагай слова і паводзін, цікавасцю свету, а таксама шчуплым, выпрастаным сілуэтам і агромнейшай энергіяй, якая нават у час размовы не дазваляе ёй прысесці. Свой вельмі добры выгляд растлумачыла, між іншым, заўзятай антыпатыяй да касметыкі, нават у дзень шлюбу не дазволіла сабе прыпудрыць твар. Спадарыня Рамуальда паспела вырасціць дзвюх дачок, з якіх адна выйшла замуж у Гарчаках, а другая пераехала жыць у Аўгустова. Лёс праслаў ёй таксама двух добрых, клапатлівых зяцёў. Хата, у якой з саракавых гадоў пражывае гераіня артыкула, вельмі старая. Яе ставілі яўрэйскія будаўнікі. Тады пражывалі тут толькі мужчыны. На жаль, не было жанчыны, якая дагледзела б пабудовы і спраўна з усім справілася б, таму ўсюды было шмат дзіраў, а адзін канец хаты доўга заставаўся непабеленым. Спадарыня Рамуальда выдатная рукадзельніца і вельмі працавіты чалавек. Працай сваіх рук аздобіла ўвесь інтэр'ер сваёй хаты і гарадскія кватэры сваіх дзяцей і ўнукаў. Апрача прысутнай паўсюль багатай вышыўкі можна там пабачыць каляровыя капы, тканыя на вялікіх кроснах. Зімой апранае яна сваю сям'ю ў цёплыя ваўняныя шапкі, світэры і шкарпэткі, уласнаручна звязаныя на прутках.


Рамуальда Пуцілоўская на фоне сваіх вышыванак

Спадарыня Рамуальда безумоўна з'яўляецца ўзорнай, польскай патрыёткай, вернай ідэалам міжваеннай Рэчы Паспалітай. З гасцямі з Крынак вяла разгавор выключна на польскай мове, у якую што і раз умешваліся беларускія словы і сінтаксіс.

— Тут ваколіца сапраўды шляхецкая, — кажа наша субяседніца. — Калісь суседнія Сухінічы пасмейваліся з нас, спяваючы песеньку „Шляхта, шляхта дробны мак”.

Навакольных вяскоўцаў шляхта называла хамамі, з якімі ў сяброўства не ўступала. Нават на забавы нікога з-па-за свайго сацыяльнага кола не ўпускала. Гарчакі — Верхнія і Ніжнія — заўсёды трымаліся разам. Хлопцы, якія ладзілі танцы, займаліся таксама запрашаннем дзяўчат; перш за ўсё трэба было прасіць дазволу ў іхніх бацькоў. Калі прыходзіў хто непатрэбны, то зараз яго выпраўджалі.

— Калісь, — успамінае Рамуальда Пуцілоўская, — на забаву ў мае родня Пуцілкі прыйшлі няпрошаныя госці з-за Адэльска. Пуцілоўскія хлопцы знайшлі спосаб, каб усё-такі адагнаць чужых. Пры ўваходзе ў танцавальную залу паставілі конскі хамут, цераз які прапускалі толькі запрошаных. Я ў Малявічах у сваякоў якраз была. Нас там на забаву ў мясцовай школе запрасілі. Мяне хтосьці з Арловіч да танца папрасіў. Я тады маладая яшчэ была. Там многа народу, неяк мне не выпадала з ім ісці. Зараз падышоў мой брат, кажу я не адмовіла. Думаю, брат крыху мяне падвучыць. Той як пабачыў, што я ўсё-такі танцую, стаў паказваць сваё незадавальненне. Лютэк Шышка з пуцілоўскімі хлопцамі зараз абступілі арлаўчаніна... Ой, што там тварылася... А Лютэк любіў паказаць сваю сілу...

* * *

Дзяўчаты з „Зараніцы” нават у снах не спадзяваліся, што пападуць на так жывы след спявачкі са зборніка прафесара дэ Куртэнэ. Аказалася, што носьбітка збераженых прафесарам песень Юзэфа Бароўская нарадзілася якраз у хаце, у якую мы толькі што завіталі. Цяперашняя гаспадыня гэтага дома Рамуальда Пуцілоўская асабіста ведала Юзэфу — родную сястру сваёй цешчы Караліны. Юзэфа выйшла замуж за Трампіцкага, якога ўсе тут называлі Ліцвіном. З ім у Першую сусветную вайну вярнулася ў бацькоўскі дом. На гарышчы хаты спадарыні Рамуальды па сёння пыляцца літоўскія кніжкі, якія прывёз тут з сабою. У іх не было дзяцей. Юзэфа яшчэ да замуства працавала няняй у сям'і прафесара дэ Куртэнэ ў Варшаве і Дэрпце. На старасць, пасля смерці мужа, вельмі кепска апякавалася ёй сястра Караліна. Спадарыня Рамуальда помніць Юзэфу напрыканцы ейнага жыцця, прывязаную да ложка. Мабыць, вельмі кепска ёй тут жылося, бо сёняшняя гаспадыня ніколі не чула спеваў старой Юзэфы. Яе пахавалі ў 1945 годзе на каталіцкім могільніку ў Саколцы, куды пазней прыязджалі ўжо дарослыя, былыя яе падапечныя з сям'і

працяг ☞ 10

# Абразкі з „ваколіцы”

9 працяг прафесара. Як кажа спадарыня Рамуальда, магілы мабыць ужо даўно няма, бо не было каму яе наведваць і даглядаць. Юзэфа, як і Рамуальда, ніколі не атрымалі сур'ёзнай адукацыі. Тады жанчын у школу не пускалі, ім можна было займацца толькі сям'ёй і гаспадаркай. Спадарыня Рамуальда закончыла некалькі класаў міжваеннай польскай школы. Чатыры гады правучылася ў Сухінічах і тры ў Малявічах. Кожны дзень хадзіла пешшу па дзесяць кіламетраў туды і назад. Школьныя заняткі адбываліся па хатах. Настаўнікі былі прыезджыя — сапраўдныя палякі, некаторыя ажно з-пад Кракава тут з'ехалі.

— У школе гучна святкаваліся імяніны Пілсудскага, я і па сёння помню гэтыя вершыкі, — кажа спадарыня Рамуальда:

*Cześć ci i chwała wielki brygadjerze*
*Za czyny twoje i za prace twoje*
*Bo na twój zew nasi żołnierze poszli na boje.*
*Gdy cała Polska w niewoli gnuśniała*
*Cześć ci i chwała.*

— Дзеці з суседніх вёсак ніяк не маглі навучыцца польскай мове, — успамінае гераіня артыкула, — яны ж штодзень папростаму гаварылі, ніяк не можна было іх пераламаць да нашай, польскай мовы. Як прыязджалі ў школу візітатары, а яны часта кантралявалі адукацыйныя поспехі, то на занятках толькі гарчакоў да дошкі клікалі. Вучні з іншых вёсак проста не маглі выказацца па-польску, таму ім трэба было маўчаць. Я таксама добра размаўляю па-просту, тут усе кругом так гаварылі. Цяпер ужо інакш, настаўніцы з вяскоўцамі пажаніліся, усе сталі папольску гаварыць. Пры саветах школу зрабілі ў нашым маёнтку. Я туды таксама хадзіла, навучылася пісаць і чытаць паруску. Да саветаў у нас ніхто па-руску не гаварыў, здараліся нейкія простыя [беларускія — аўт.] словы, але ў асноўным карысталіся польскай мовай. І сёння ў іх [беларусаў — аўт.] ёсць такія словы, што я зусім не разумею. Калісь, як я яшчэ вяла гаспадарку, то тут было многа працаўнікоў з навакольных вёсак, між іншым, з Сухініч і Хмялеўшчыны, з імі ж толькі па-просту дагаворыцца. Яны нам бульбу садзілі і капалі, у жніво памагалі. Мы прымалі на працу па восем-дзесяць людзей, іх трэба было накарміць. Я ўначы ўставала, каб есці зварыць. Калі вярталіся з поля, то толькі адагравала ім ежу.


Святы кут у пакоі

Спадарыня Рамуальда марыла аб далейшай адукацыі. У ёй былі прыродныя схільнасці, навука давалася ёй вельмі добра і лёгка. Вельмі цікавілася медыцынай і хацела прафесійна ёй заняцца, як кажа, нават уколы людзям умела зрабіць, але ж у хаце сказалі, што не трэба. Сапраўды, маладая Рамуальда мусіла адзначацца незвычайнай інтэлігентнасцю. Ужо ў шаснаццаць гадоў яна дапамагала старэйшаму брату развіваць гандлёвую дзейнасць. Разам з ім пераехала ў Адэльск, дзе жыла і працавала ў братавай краме, пакуль той не ажаніўся. За таварам фурманкай ездзіла ў Саколку ў аптовы склад яўрэя Гросберга. Там набывала, між іншым, усякага гатунку тканіны, выбар быў вялікі. Ніколі не было праблемы з рэалізацыяй заказаў. Гросберг вызначаўся вялікай адказнасцю і сумленнасцю ў сваёй рабоце.

— Тады пры нагодзе я і сабе набыла рознага дабра. Цяпер гэта не навіна, але калісь не кожны мог купіць неб'ючыеся шклянкі, якія і фасонам адрозніваліся ад звычайных. Няраз на сямейных зборышчах мой муж, выпіўшы, спецыяльна кідаў за сябе гэтыя шклянкі. Сабраныя не маглі надзівіцца гэткаму цуду. З сям'ёй Гросбергаў сваякі спадарыні Рамуальды выпадкова сустрэліся і ў пасляваенны час. Сястра зяця Тадэвуша паехала ў Амерыку за хлебам. Так атрымалася, што папала менавіта ў гэтую яўрэйскую сям'ю родам з Саколкі, у якой перапрацавала дваццаць пяць гадоў свайго жыцця. Жанчына за амерыканскія грошы купіла ўсім сваім шасцярым дзецям кватэры. Наймалодшая дачка — шалапут, чамусьці прадала сваю кватэру, але мама купіла ёй другую. Зморана працай жанчына не хацела ўміраць на чужыне і рашыла вярнуцца на бацькаўшчыну. Калі ад'язджала, Гросбергі плакалі, не хацелі яе адпускаць.

Калі ідзе пра далейшы лёс спадарыні Рамуальды, то, вярнуўшыся з Адэльска, стала яна вучыцца кравецтву. Тады яна яшчэ жыла ў Гарчаках-Верхніх і на навуку прыходзіла ў Гарчакі-Ніжнія да цяперашняй, суседскай хаты, дзе за невялікія грошы вучылі яе шыць жаночую, мужчынскую і дзіцячую вопратку. Кравецтвам як крыніцай заробку ніколі не займалася, на гэта ёй часу не хапала. Але новая спецыяльнасць спатрэбілася ёй у паслязамужнім, сямейным жыцці.




Якім чынам найлепей прапагандаваць беларускія песні і беларускіх выканаўцаў? Адказ на гэтае пытанне спрабуюць даць як улады Беларусі, так і незалежныя арганізацыі. Першыя, лічачы беларускімі ўсіх выканаўцаў і стваральнікаў песень, што жывуць у Беларусі, прымушаюць радыёстанцыі даваць у эфір 75% песень, да якіх спрычыніліся мясцовыя музыкі. Пры гэтым гаворка аб мове, на якой гучыць песня, не вядзецца.

У той жа час сябры розных суполак, якія адносяць сябе да адраджэнскіх і незалежных, імкнуцца неяк арганізаваць беларускамоўныя канцэрты. Адной з такіх суполак з'яўляецца „Беларуская музычная альтэрнатыва” (BMA Group), сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://belmusic.org.

Выгляд сайта надзвычай просценькі і нават дзесьці не надта прыцягальны. Ён збольшага падобны на старонку ў „Жывым часопісе”, альбо на нейкі іншы блог. Але гэта насамрэч паўнавартасны сайт, дзе маецца невялікая колькасць старонак, і прысвечаны ён толькі адной тэме — папулярызацыі беларускамоўных музычных твораў.

На галоўнай старонцы сайта зялёнымі літарамі напісаны заклік „Слухай сваё!”, і гэтымі двума словамі абазначана ідэйная накіраванасць „Беларускай музычнай альтэрнатывы”.

Што ж тычыцца самапрэзентацыі данай групы, то яна месціцца ў рубрыцы „Пра нас”. „BMA Group — утвораная ў 1996 годзе маладзёвая арганізацыя, галоўнай мэтай якой з'яўляецца прапаганда беларускай музыкі. За гэты тэрмін ёй выдадзена шмат запісаў айчынных музыкаў: ад маладых гуртоў з новых музычных плыняў да твораў мэтраў сучаснай ды класічнай музыкі. BMA Group на працягу апошніх год таксама з'яўляецца буйнейшым арганізатарам беларускіх канцэртаў ды фэстаў”, — коратка распавядаюць пра сябе і сваю дзейнасць прамотары беларускай музыкі. Праўда, даны кароткі расповед з'яўляецца адначасова і гісторыяй суполкі, бо, відаць, па недаглядзе стваральнікаў сайта ён дублюецца ў абедзвюх падрубрыках „Пра нас” і „Гісторыя”.

Згодна беларускай інтэрнэт-завядзёнцы абазначаць сябе ўладальнікі сайта і яго ідэйныя натхняльнікі не лічаць патрэбным. З таго ў „Кантактах” толькі невядома чый нумар мабільнага тэлефона і такі ж невядома чый нумар ICQ.

Найбольш насычанай інфармацыяй з'яўляецца старонка „Навіны”. Там месцяцца артыкулы пра разнастайныя імпрэзы, якія адбываліся апошнім часам у розных беларускіх мясцінах, альбо падзеях вартых увагі беларускага музычнага асяроддзя. Сярод іх — выступленне лідара гурту «Палац» Алега Хаменкі ў Магілёве, літаратурна-музычная імпрэза, прымеркаваная чарговым угодкам з дня нараджэння Васіля Быкава на яго малой радзіме, расповед пра рок-кампазітара Ігара Сімбірова, рэпрэсаванага беларускай міліцыяй, які стварыў сярод іншага CD-альбом «19 сьняжынак праўды» (2010), і іншыя артыкулы.

Больш грунтоўныя тэксты на музычныя тэмы змяшчае ў сабе рубрыка „Рэцэнзіі”. Там, дзе выказваюцца крытычныя меркаванні адносна песень ці выканаўцаў, цікавым бачыцца жаданне сяброў БМА перарабіць беларускі алфавіт. Так, пачынаючы з артыкула „Lovesong ад караля рокмэлёдый” яны робяць спробу вяртання ідэі графічнага ўвасаблення адной літарай наступных здвоеных гукаў: Дж/дж — Җ җ і Дз/дз — Ѣ ђ.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Сядзібы апошняга караля

Амаль кожны дзень мне даводзіцца праходзіць праз стары каралеўскі парк — месца, якое ў горадзе над Нёманам называецца Станіслава. Тут была адна з рэзідэнцый апошняга манарха Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Некалі тут заканчваўся горад. Цяпер тэрыторыя старога парку, ледзь не адзінага, яшчэ ацалелага ў Гародні, і шэраг сядзібных будынкаў, належаць мясцоваму аграрнаму ўніверсітэту, які ў народзе па-ранейшаму называюць „сельхоз”. Дзесьці тут побач мусіла быць вуліца італьянскага архітэктара Джузепе Сака, але яе няма. Ёсць касманаўткі Церашковай, ёсць чужога натураліста Ціміразева, а Сака няма. І мала хто з жыхароў увогуле ведае гэтае імя каралеўскага дойліда. А менавіта ён праектаваў Станіслава і шэраг іншых выдатных ансамбляў. У Станіславове кароль бавіў час звычайна зімой, асабліва часта наведваў яе ў апошнія гады свайго гарадзенскага перыяду. Пасля яго выезду ў Санкт-Пецярбург рэзідэнцыя была канфіскавана ў расейскую казну. З XIX стагоддзя і ажно да прыходу бальшавікоў у 1939 годзе сядзібай валодалі Друцкія-Любецкія. Пасля другой сусветнай вайны будынак сядзібы быў перароблены, над бакавымі крыламі надбудаваны другі паверх. Як выглядала рэзідэнцыя раней можна ўбачыць на малюнку Напалеона Орды. З аздобы даўніх часоў на эркеры фасада захавалася манаграма SAR — „Stanislaus Augustus Rex”. Парк, дзе расце некалькі вельмі старых ліп, досыць спакойны і ціхі, праз дарогу яго працягам ёсць сучасны дэндрарый.

Другая рэзідэнцыя Панятоўскага ў занёманскай частцы Гародні — Аўгустова ці Аўгустовак. Зараз гэта сучасная вуліца Рэпіна. Сядзіба забудоўвалася ў 1770 гады. Вядомы сімвалічны факт, што якраз у час апошняга Сейма Рэчы Паспалітай у 1793 годзе вядомыя астраномы Марцін Пачобут-Адляніцкі і Ян Снядэцкі назіралі з тэрыторыі Аўгустоўка сонечнае зацьменне. Будынак самога палаца не захаваўся (яго выгляд можна ўбачыць на старой нямецкай паштоўцы), ён быў спалены ў час Першай сусветнай вайны. Маёнтак займаў досыць вялікую тэрыторыю — разам з лугам, лесам і фальваркамі каля 12 га. Пасля прыходу сюды расейскай імперыі сядзібай валодаў стаража́ытны ірландска-нарманскі род О'Браен дэ Лясы — першым яго з'яўнікам тут быў генерал Маўрыкій дэ Лясы. А вось з апошняй прадстаўніцай мне давялося пазнаёміцца асабіста. 16-гадовая Нэлі О'Браен дэ Лясы паспела выехаць з Гародні разам з маці перад самым прыходам бальшавікоў. Пазней яна выйшла замуж за немца і пераехала на стала ў Аргенціну. Там яна здабыла шырокую вядомасць як мастачка. У сярэдзіне 1990-х гадоў спадарыня Нэлі разам з мужам наведала горад свайго дзяцінства і прывезла выставу твораў. Яе акварэлі з выявай берагоў па той бок Атлантычнага акіяна запомніліся нашым аматарам жывапісу. Дзякуючы Нэлі О'Браен і неабыякавым людзям была адрэстаўравана фамільная капліца па вуліцы Рэпіна, якая некалі служыла таксама пахавальняй і дзе знайшоў апошні спачын яшчэ перад вайной бацька мастачкі. Пры саветах капліца была паўразбурана і служыла нейкім складам, дзе стаялі бочкі з палівам. Палаца ў Аўгустоўку зараз няма, захаваўся толькі аднаўлены будынак карчмы на старым падмурку — там размешчаны клуб дзіцячай творчасці.

Ёсць у Гародні на ўскрайку яшчэ адна былая рэзідэнцыя караля — Панямонь ці Панямунь. Ад былога летняга палаца захаваўся толькі фрагмент кутняй вежы і старая капліца. Тэрыторыя належыць райаграпрамтэхніцы.

Былыя рэзідэнцыі апошняга караля з'яўляюцца сімвалам заняпаду старой эпохі. Яны — напамінак, што ўсё на гэтым свеце мінае.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Беларусы Вільні ў Сопаце

У апошнюю суботу чэрвеня г.г. Беларускае культурнае таварыства «Хатка» гасціла групу літоўскіх беларусаў з Вільні са старшынёй Хведарам Нюнькам. Віленчукі як штогод — так як мы тут на Прымор'і ў каталіцкае свята Божага Цела вандруем па розных мясцінах Кашубшчыны — наведваюць розныя куткі Еўропы, дзе жывуць беларусы. Сёлета трапілі яны ў Трыгарад, каб супольна з тутэйшымі беларусамі адсвяткаваць 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Пры нагодзе наведалі яны помнік пісьменніку па вуліцы Янкі Купалы ў квартале Аліва ў Гданьску, і яшчэ адно месца — вуліцу Янкі Брыля ў Гдыні, дзе пэўна некалі таксама стане памятны камень з інфармацыйнай табліцай кім быў беларус, які заслужыўся гораду, каб ушанаваць яго назвай вуліцы.


Прамаўляе Хведар Нюнька

Сустрэча пры багатым застоллі адбылася ў памяшканні «Хаткі» ў Сопаце па вуліцы 3 Мая. Спадарожнічаў ёй спектакль паэзіі Янкі Купалы ў рэжысуры старшыні «Хаткі» Лены Глагоўскай. Удзельнікам сустрэчы Лена раздала паштоўкі «Чытаем Янку Купалу разам», аформленыя Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы ў Вязынцы. І кожны субяседнік прачытаў верш з паштоўкі, прыхіляючыся да лозунга, што вершы чытаем разам. Момант быў не толькі ўзнёслы, але і хвалюючы, прынамсі для мяне, калі чытаў я верш «Над калыскай», актуальны, хоць калыхаю не сына і не ўнука, але ўнучку.

Хведар Нюнька распавёў пра становішча беларускай меншасці ў Літве, якое не вельмі цікавае, і то не толькі па прычыне сусветнага эканамічнага крызісу, які кранае дзяржаву, але і таму, што ўлады не вельмі зацікаўленыя ў падтрымцы меншасцей. Хоць, з другой стараны, дзякуючы Еўрасаюзу, членам якога з'яўляецца Літва, справа не павінна быць зусім абыякавай. «Наша сітуацыя, як беларусаў, куды лепшая ў Літве, чым беларусаў з Рэспублікі Беларусь, а па той прычыне што дарога ў Еўропу адкрытая, дзякуючы шэнгенскай прасторы, — сказаў Хведар Нюнька. — Як суполка маем сваё памяшканне ў Вільні, але ніякіх ільгот у коштах яго ўтрымання не маем, так як вы тут. Як чую, горад Сопат поўнасцю аплачвае кошты функцыявання памяшкання».

Старшыня Нюнька ў некалькіх словах зазнаёміў нас з членамі сваёй дэлегацыі, а са стараны «Хаткі» Лена Глагоўская прадставіла госцям гданьскіх беларусаў. Мацей Канапацкі падпісваў госцям кніжку «Увесь свет Мацея Канапацкага», потым былі тосты. Перш за ўсё за здароўе, бо як яно будзе, то яшчэ сустрэнемся не раз, і каб Беларусь стала краінай вольнага народа ў вольнай і дэмакратычнай дзяржаве.

Тэкст і фота
Міхася КУПТЭЛЯ

# Вяртанне да страчанай традыцыі

■ Тэкст і фота Віктара БУРЫ

Ініцыятарамі правядзення ў Старым-Масеве (Нараўчанская гміна) фэсту, прымеркаванага да дня святога Ануфрыя, з'яўляюцца солтыс вёскі Аліна Філіновіч і яе паплечнікі. Такім чынам вярнулі яны страчаную даваенную традыцыю, калі вёска належала да Ціхавольскага прыхода, у якім прастольнае свята адзначалася менавіта ў дзень св. Ануфрыя (царква згарэла ў час апошняй вайны, а Ціхаволя апынулася за ўсходняй мяжой). У апошнюю чэрвеньскую нядзелю жыхары Масева адзначылі аднаўленае свята ўжо трэці раз.

Каля 15-й гадзіны вялікая плошча ля вясковай святліцы стала запаўняцца публікай. Жыхароў вёскі і іх гасцей чакалі ўжо латкі з напоямі, марожаным, ласункамі, курацінай з барбекю. Адзін за адным прыбывалі самадзейнікі з розных бакоў Падляшскага ваяводства — спевакі, музыканты, калектывы. Апрача мясцовых калектываў, якія дзейнічаюць пры Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы — „Цаглінак" са Старога Ляўкова (з іх выступлення пачаўся канцэрт) і „Нараўчанак", на свяце выступілі, між іншым „Луна" і „Сонель" з Беластока, „Хутар" з Гарадка, „Гевен" з Гайнаўкі, самадзейнікі з Рыбалаў і гітарны дуэт з наваколля Белавежскай пушчы.

Свята адкрыў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, а канцэрт павяла інструктарка па справах культуры ГАК Кацярына Бляўская. Як я даведаўся, мерапрыемства арганізуецца пры вялікай дапамозе вопытнай дырэктаркі ГАК у Нараўцы Анны Стульгіс. У яе культурнай установе ўсе мерапрыемствы, у тым ліку і беларускія, арганізуюцца з любоўю, густам і майстэрствам.

Святкаванні ў гонар Ануфрыя (значэнне імя: той, які заўсёды добры) у пушчанскім Масеве маюць на мэце захаванне традыцыі. Няхай жа заўсёды добры св. Ануфры спрые арганізатарам фэсту і жыхарам Масева ў рэлізацыі намечанай імі справы. Думаю, што шматгадзінны канцэрт беларускіх калектываў чутны быў і ў суседняй Ціхаволі на Беларусі.


Солтыс Аліна Філіновіч

# Адгаданка

1. Міхаіл, ураджэнец Кузніцы, ідэолаг заходнерусізму /1828-1891/, 2. партнёр кумы, 3. партнёр Евы, 4. Шарль, французскі дыпламат /1754-1838/, 5. Вячаслаў, старшыня Савета міністраў Рэспублікі Беларусь у 1990-1994 гадах, 6. дзяржава Іва Ёсіпавіча і Зорана Міланавіча.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Авёс, і, „Іж", мужык, мяў, прызыў, Ува, цаца.

Рашэнне: **Я працаваў у вёсцы і жыў з мужыкамі** (фраза Аляксандра Лукашэнкі).

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# 22.07 — 28.07

**(22.03. — 20.04.)** Вельмі ўдалыя сяброўскія і любоўныя сустрэчы. Магчымая значная паправа твайго фінансавага становішча. У панядзелак пачуцці могуць пераважаць над тваім розумам, што можа стаць прычынай промахаў. Ды ёсць у цябе магчымасці і сілы супрацьстаяць адмоўным момантам жыцця. У чацвер магчымыя сутрэчы з уплывовымі людзьмі. У пятніцу не спрачайся, асабліва з жанчынамі.

**(21.04. — 21.05.)** Грошы прыцягваеш як магніт. Магчымая небяспека звязаная з перуном або электратокам. У панядзелак лепш адкладзі падарожжы, асабліва далёкія. У сераду не купляй танных рэчаў. У пятніцу набярыся цяпрлівасці і вытрымкі, каб пазбегнуць канфліктаў. У суботу поўнасцю аддайся пачуццю.

**(22.05. — 22.06.)** 23-27.07. зоркі адораць цябе сілай і ўпартасцю, неабходнымі для вырашэння кожнай справы. Дасі рады ўсяму! Ды не пакуйся ў цьмяныя інтарэсы. Не прымай падарункаў ад малазнаёмых і тым больш ад добравядомых табе хітрых людзей. Па меры магчымасці пазбягай месц зборышчаў людзей.

**(23.06. — 23.07.)** Можаш зарабіць большую суму. Наступае добры час для здабывання новых ведаў і досведу. Магчымыя эмацыянальныя праблемы ў адносінах з мілай табе асобай. Не плануй сустрэч у інтарэсах у аўторак. У чацвер пастарайся ўразіць атачэнне; у будучыні гэта дасць карысны вынік. У суботу пільнуй сябе і блізкіх ад траўмы.

**(24.07. — 23.08.)** Ільвы, шукаючыя новай працы, павінны быць асабліва асцярожныя, бо могуць нарвацца на ашуканцаў. 23-27.07. лёгка цябе будзе звесці, твае спадзяванні могуць быць зусім нерэальныя. Затое маеш добры час для дапаўнення гардэробу; не купляй дзяшоўкі. Будзь гатовы на прыход нечаканых гасцей (могуць быць гэта і тараканы!). У чацвер адмоўся ад рыбы, у пятніцу не наступі на цвік.

**(24.08. — 23.09.)** 23-26.07. будзеш бараніць як леў сваіх поглядаў. Добры час на размовы аб павышэнні і для фінансавых здзелак. 22-26.07. запісвай свае сны, бо могуць быць прароцкімі. Мінулае дасць табе знаць аб сабе. Выканай свае абяцанні. Можаш зрабіць абноўку хатняга інтэр'еру.

**(24.09. — 23.10.)** Прымяняй касметыку з моцнымі фільтрамі ад сонца. Варта было б кудысьці з'ездзіць, найлепш з сябрамі. У першыя дні тыдня можа турбаваць цябе штосьці звязанае з ненайлепшым настроем і рознагалоссем. У другой палове тыдня вялікае зацікаўленне да тваёй персоны выкажа супрацьлеглы пол. Чацвер добры для адмены або нейтралізацыі чагосьці. У суботу лепш не выбірайся ў месцы масавых сустрэч.

**(24.10. — 22.11.)** Атрымаеш доўгачаканыя весткі. Адразу паправіцца табе настрой! Да 24.07. удасца ажыццявіць табе найбольш смелыя планы. Удалыя пошукі працы. Магчымая сур'езная сустрэча з любым чалавекам, з узаемнымі пачуццямі на доўгія гады. У панядзелак прыйдзецца табе ўзяць дадатковую адказнасць за калектыў.

**(23.11. — 22.12.)** 22-26.07. прадбачваецца рух у інтарэсе. Чакае цябе поспех, дагаворышся з асобай дагэтуль непрыхільнай табе. Ды дробныя сямейныя здарэнні могуць цябе вывесці з нерваў. У панядзелак будзь пільным — можаш набыць штосьці новае для твайго жыцця. У сераду чакае цябе выбар, ад якога будуць залежаць змены ў тваім жыцці.

**(23.12. — 20.01.)** Добры час на змены ў жыцці: шлюб, закватараванне разам, пачатак пабудовы дома. Ды не выдавай грошай — неўзабаве трэба будзе інвеставаць у сябе самога. Прысвяці больш увагі свайму здароўю. У чацвер дбай асабліва аб свой нос.

**(21.01. — 19.02.)** Да 24.07. пераканаешся, як невялікім накладам сіл можаш шмат дасягнуць. Вырашышся на адважныя прыёмы і возьмеш быка за рогі. Усе твае дзеянні не прападуць дарам. Любая рызыка будзе мець пазітыўны вынік і забяспечыць табе дабро ў будучыні.

**(20.02. — 21.03.)** Атрымаеш важныя весткі. Будзе лепш чым думаеш, а грошы паплывуць патокам. Нават калі не будзеш нічога рабіць! Прыемныя нечаканасці на рабоце, у бізнесе. Але будзь асцярожны з інфармацыяй і не вырашай аб нічым маланкава.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Шматгадовы спеў „Чыжавян”

■Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Калектыў „Чыжавяне” займае асаблівае месца сярод беларускіх калектываў Беласточчыны: прадстаўляў ён беларусаў Польшчы на прэзідэнцкіх дажынках і іншых агульнапольскіх мерапрыемствах, дабіваецца пераможных месц на фестывалі „Беларуская песня”, перамагаў на прэстыжных фальклорных мерапрыемствах і іншых песенных імпрэзах у Польшчы. Доказам гэтаму хай будзе першае месца, якое спевакі з Чыжоў 10 чэрвеня занялі на IX Прэзентацыях народнай традыцыі Падляшскага ваяводства „У пошуках і пераказванні фальклору” (Нараўка-Семяноўка). У гэтым годзе ў час цэнтральных элімінацый фестывалю „Беларуская песня” жаночая група „Чыжавян” заняла першае месца, а мужчынская група і цэлы калектыў занялі другое месца. У мінулым у час гэтага мерапрыемства ўвесь гурт часта займаў прызавыя месцы. Не толькі мясцовым людзям падабаецца беларускі рэпертуар калектыву, у якім побач шматлікіх апрацаваных народных песень апошнім часам пачаў паяўляцца неапрацаваны фальклор.



„Чыжавяне”

У выпадку чыжоўскага калектыву вельмі важным было, што да яго сталі гарнуцца асобы малодшага ўзросту, якія давалі падмену найстарэйшым спевакам і амалоджвалі састаў. Было гэта відаць у час юбілейнага мерапрыемства, прымеркаванага да 25-годдзя дзейнасці „Чыжавян”, якое 8 ліпеня адбылося на вялікай пляцоўцы, непадалёк ад гміннай установы ў Чыжах. Удастоілі яго віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Валянцін Карыцкі, ваяводскія радныя Мікола Яноўскі і Ян Сычэўскі (ён і старшыня БГКТ), шматлікія самаўрадаўцы Гайнаўшчыны, прадстаўнікі культурных устаноў і іншыя запрошаныя госці, якія ўваходзілі на высокую сцэну і віншавалі юбіляраў. Павіншаваць прыехалі таксама беларускія калектывы Беласточчыны, якія разам з юбілярамі выступілі перад публікай. Было таксама многа прапаноў для дзетак — гарадок гульняў, ларкі з цацкамі і ласункамі, паказ тэхнікі, якой карыстаюцца пажарнікі і ахоўнікі мяжы. Адно вялікая спёка не дазваляла доўга выседзець старэйшым людзям, якіх пажарнікі нават паспрабавалі арасіць вадой.

— Ініцыятыва заснавання нашага калектыву выйшла ад інструктара Гміннага асяродка культуры Галіны Мартынюк. Гэта яна сумела згуртаваць чыжавян вакол ідэі супольнага спявання. Ездзіла на выступы і нават спявала з намі на сцэне. Хаця, засноўваючы калектыў, не былі мы ўжо маладымі людзьмі, аднак мелі вялікую патрэбу спатыкацца і супольна паспяваць. Рэпетыцыі і выступы даюць нам задавальненне да сённяшняга, — заявіў Рыгор Якімюк, які разам з жонкай Марыяй спявае ў гурце з моманту яго заснавання. — Спачатку больш складана было рыхтавацца да выступаў, але стаў прыязджаць да нас акардэаніст са Старога Беразова Сёма Карнілюк і састаўляў нам музычны акампанемент. Пасля займаліся з намі прафесійныя музычныя кіраўнікі.

Калектыў „Чыжавяне” заснаваны быў на зломе 1986/1987 гадоў. Рэпетыцыі пачаліся яшчэ ў 1986 годзе, а першы раз выступілі ў студзені 1987 года на Раённым калядным аглядзе ў Гайнаўцы, дзе калектыў адразу заняў першае месца. У лютым 1988 года гурт прыняў сённяшнюю назву, а яго ганаровымі апекунамі сталі Анна Ціханюк і Сяргей Насковіч. Адметнасцю „Чыжавян” былі выступы цэлымі сям'ействамі і гэтая традыцыя захоўвалася доўгі час. У час урачыстасці дырэктар ГАК Юры Якімюк назваў мне прозвішчы спевакоў з першага складу: Марыя і Рыгор Якімюкі, Вольга і Ян Ахрымюкі, Яўгенія і Васіль Якімюкі, Марыя і Васіль Іванюкі, Марыя і Васіль Гаўрылюкі, Валянціна Бядрыцкая, Лідзія Гаўрылюк, Люба Конах, Ніна Бабрыцкая, Галіна Мартынюк і Яўген Кавальчук. Побач асноўнага калектыву ў 1988-1990 гадах у Чыжах дзейнічаў таксама маладзёжны вакальны гурт, а пазней — інструментальна-вакальны калектыў.

— Калектыў „Чыжавяне” — гордасць нашай гміны. Дае ён нам многа радасці. Выступаючы на высокім мастацкім узроўні і набыўшы прыкметы прафесійнага гурту, расслаўляе ён нашую гміну і цэлы наш рэгіён. Апрача мастацкай дзейнасці займаецца ён у нас таксама грамадскай дзейнасцю і, можна сказаць, што зараз у яго другая моладасць, бо спяваюць у гурце малодшыя асобы, а Крысцінія Гаўрылюк з'яўляецца нават старшынёй нашай Рады гміны, — сказаў у час мерапрыемства войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, які ўручыў калектыву падарункі, кветкі і павіншаваў усіх спевакоў паасобку. Цяпер у калектыве „Чыжавяне” спяваюць Марыя і Рыгор Якімюкі, Вольга Ахрымюк, Яўген Кавальчук, Алена Васілюк, Яраслаў Бількевіч, Альжбета Ціханюк, Крысцінія Гаўрылюк і музычны кіраўнік Юры Ганевіч.

— Наш калектыў — незвычайны, расслаўляе нас на агульнапольскіх мерапрыемствах. Ён — нашая візітная картачка. Спявала ў гурце больш за 40 чалавек, — дадаў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк.

Песні ў выкананні чыжоўскіх спевакоў былі запісаны на аўдыёкасету і два кампакт-дыскі. За свае поспехі „Чыжавяне” ў 1997 годзе атрымалі калектыўную ганаровую адзнаку „Заслужаны Беласточчыне”, а пазней паасобныя спевакі былі ўзнагароджаны адзнакамі „Заслужаны дзеяч культуры”. Песні ў выкананні „Чыжавян” гучаць у перадачах Радыё Рацыя і Польскага Радыё Беласток, а сюжэты з іх выступаў паказваюцца ў беларускіх перадачах Беластоцкага тэлебачання.

— 25 гадоў мінула вельмі хутка. Усяляк бывала ў дзейнасці нашага калектыву, але нас усіх трымала любоў да спеву. Складана было, калі нашыя дзеткі былі малымі. Бывала, што я з сабой брала сваіх малеч на рэпетыцыі або выступы. Перарывалі мы таксама працу ў полі і ехалі спяваць, а пасля канчалі работу. Адзін раз я так спяшалася, што мэблю на падлогу звалiла і не было ўжо часу, каб перад выездам прыбраць у пакоі. Бывала, што і ў нашай вёсцы падсмейваліся з нас, гаворачы, што зноў на *трыбуну* пойдзем, — успамінала салістка калектыву Вольга Ахрымюк. — Аднак усё мы пераадолелі, дружна жывем у калектыве. Хаця здароўе слабое, аднак не хочацца яшчэ пакідаць супольных выступаў.

Зараз кіраўніком калектыву з'яўляецца Марыя Якімюк, а яе намеснікам — Алена Васілюк.

— Усё бывала ў нашай дзейнасці, спрэчкі таксама, але ўсё мы пераадолелі і зараз з мінулага засталіся толькі самыя добрыя ўражанні. Цяпер у нас моцны, калі браць пад увагу нашыя галасы, склад калектыву з дзевяці чалавек. Мы часта выязджаем на выступы. За ўсю нашую дзейнасць выступілі мы можа больш за тысячу разоў, — сказала кіраўнік калектыву Марыя Якімюк і дадала, што ўдалым першым кіраўніком была Яўгенія Якімюк.

„Чыжавяне” ад пачатку часта прымалі ўдзел у дзяржаўных святкаваннях і канцэртах у сваёй вёсцы. Іх спеў падабаецца не толькі мясцовай публіцы. Чыжоўскі калектыў здабыў прызнанне на Беласточчыне і ў розных гарадах Польшчы. Тры разы чыжоўскія спевакі выступілі на прэзідэнцкіх дажынках у Спале.

— Хто вырашае, што толькі калектыў „Чыжавяне” з нашага рэгіёна ездзіць на прэзідэнцкія дажынкі ў Спалу? — пытаў свайго часу радны Гайнаўскага павета і заадно дзеяч культуры ў час сесіі і атрымаў адказ, што калектыў атрымлівае запрашэнні непасрэдна ад арганізатараў дажынак.

Музычнымі кіраўнікамі калектыву былі музычныя інструктары з Рэспублікі Беларусь — Анатоль Куніцкі, Міхал Аўхіменя, Ігар Ціманoвіч, а зараз ім з'яўляецца Юры Ганевіч з Гродна.

— Наш калектыў выступае на ндрэнным узроўні. Побач апрацаваных беларускіх песень, частка якіх сабрана на Беласточчыне, выступаем мы таксама з неапрацаваным мясцовым фальклорам. У час фальклорных выступаў я ўжо не састаўляю акампанемент, толькі рыхтую да спеву, — заявіў музычны кіраўнік „Чыжавян” Юры Ганевіч, які наогул падыгрывае калектыву на акардэоне.

Чыжавяне хвалілі калектыў за прыгожы спеў і прасілі, каб часцей выступаў перад публікай. „Чыжавяне” ў мінулым часта выступалі па-за сваёй гмінай, напрыклад, на калядных аглядах. Занялі, між іншым, першыя месцы на Міжваяводскіх сустрэчах калектываў калядоўшчыкаў у 1991 годзе ў Ломжы, а ў 1994 годзе — у Бельску-Падляшскім. У 1990 годзе дабіліся першага месца на Ваяводскім аглядзе калядоўшчыкаў, а ў 1989 годзе — другога. Вельмі цёпла ўспамінаюць выступы на Сустрэчах нацыянальных меншасцей у Пунску і Дабрадзені, ці ў час Прэзентацый беларускіх абрадавых калектываў.

— Я люблю спяваць, люблю быць сярод людзей, — заявіў спявак Яраслаў Більkeвіч.

— Я рашыўся ўступіць у гурт, бо тут магу рабіць тое, што люблю, гэта значыць спяваць, а беларускі рэпертуар мне вельмі падабаецца, — сказаў Яўген Кавальчук.

Мерапрыемства завяршылі выступы маладзёвых калектываў, феерверкі і вясковая забава. Аднак да канца ў цэнтры ўвагі былі юбіляры — „Чыжавяне”, якія вельмі ўдала выступілі на сцэне.

ISSN 0546-1960